PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 32 (2204) Год XLIII Беласток 9 жніўня 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Галівуд, а не П’емонт

Праз старонкі газет і эфір пракацілася хваля спекуляцый наконт радыё „Вольная Беларусь”. Інфармавалася, дзе будуць яго памяшканні, радыёперадатчык і грошы (немалыя), адведзеныя амерыканскай адміністрацыяй.

На жаль, Радыё „Вольная Беларусь” — гэта выдумка, якая стала жыць сваім жыццём. Можна толькі здзіўляцца, што такая прэстыжная газета, як „Выборчая” пайшла на падобную авантуру.

Тым не менш, зерне праўды ў тым ёсць. Праўда такая, што Беларускі саюз у Польшчы робіць стараннi ствараць беларускае радыё. Пераконваць чытачоў „Нівы” ў тым, што радыё нам патрэбнае, наўрад ці трэба. Наша мара — стварыць радыё, якое мела б не толькі лакальнае, але і агульнабеларускае значэнне. Нам не абыякавы лёс цэлай беларускай нацыі. Маем права на тое, каб пашыраць незалежную ад палітыкі беларускіх улад інфармацыю аб тым, што дзеецца ў Беларусі і выказваць свае погляды.




Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Вядома, выключна сваімі сіламі гэтага радыё не створым. Патрэбныя сродкі, вопытныя журналісты і сетка карэспандэнтаў. Стараемся здабыць гэтыя сродкі ў няўрадавых еўрапейскіх арганізацыях, гаворым з бізнесменамі. Далучаем да праекта журналістаў з Беларусі.

Пішу вельмі агульна, бо і праект яшчэ ў стадыі складання, а не хочацца рабіць усім нам надзеі. Колькі ж было ў нас ідэяў, якія не здзейсніліся або здзяйсняюцца вельмі паволі! Усё ж такі — здзяйсняюцца. Таму веру, што будзем мець не толькі сваё радыё, але і тэлебачанне. Гэта ж звычайная справа ў свеце.

Калі я сказаў аб тым знаёмаму журналісту, гэты ўскрыкнуў: „Вы тут не П’емонт, а Галівуд стварыць хочаце”.

Што ж, гэта называецца ісці з духам часу!

Алег ЛАТЫШОНАК



Юрка Харкевіч на Семяноўскім вадасховішчы.

# Вада бывае і здрадлівай

Аляксей МАРОЗ

**— Я заўсёды паўтараю, што да вады нельга ніколі адносіцца абыякава. Здараецца так, што вада цёплая, а тут паявіцца халоднае крынічнае цячэнне, сціск сосудаў і чалавек не можа плысці, — кажа Юрка Харкевіч, які працуе ратаўнікам у Воднай добраахвотніцкай хуткай дапамозе пры Семяноўскім заліве. — Ёсць спакойнае возера, а калі падзьме вецер — праз дваццаць хвілін можа быць ужо хваля ў адзін метр вышыні, і што ж тады рабіць на пантонах ці матрацах! Быў такі год, калі шэсць асоб утапілася. Вываорчваюцца парусныя лодкі, пантоны і тады трэба выцягваць і людзей, і лодкі.**

Адпачываць каля Семяноўскага вадасховішча прыязджае летам шмат людзей. Многа беластачан і гайнавян купілі ўчасткі зямлі і пабудавалі дачы. У час летніх канікулаў вучні і студэнты едуць з палаткамі. Тыя, якія не рашыліся на водпуск у польскіх і замежных курортах, прыязджаюць цэлымі сем’ямі. Аднак толькі каля Бандароў падрыхтаваны адпаведны пляж. У іншых месцах плаванне забаронена, можна тут трапіць на карэнне, нейкія калодзежы, абрывы ці іншыя неспадзеўкі.

— Мы нават не маем права патрабаваць ад адпачыннікаў, каб не плавалі ў месцах без нагляду або не выплывалі на матрацах, а паліцыя не мае магчымасці сачыць за ўсімі, — гаворыць Юрка Харкевіч, які пастаянна працуе вадзіцелем у хуткай дапамозе, што на Гайнаўскай чыгунцы. — Апошнім часам вывернулася парусная лодка „катамаран”, а пасля дзвюх гадзін іншая лодка, на якой было шэсць асоб, у тым ліку трое дзяцей, якіх мы ратавалі. Бывае і так, што чалавек адплыве далёка ад берагу і тады лапае яго курч, а вярнуцца ўжо не можа. Тады трэба хутка падплысці. Цяпер у нас вялікая лодка „кэсэр”, „малібу”, „камэо” і водны матацыкл „кэсэр”.

Водная добраахвотніцкая хуткая дапамога ў Старым Двары (паміж Семяноўкай і Лукой) пачала працаваць, калі аддалі ў карыстанне для адпачыннікаў заліў. Ад самога пачатку працуе там і Юрка Харкевіч.

— Спачатку было некалькі асоб, а ратавалі на сваіх прыватных лодках. Пазней прэзес Веслаў Харашуха, што з Беластока, перадаў нам лодкі з Райгроду. Жылі мы тады яшчэ ў бараках, а мыліся чэрпаючы ваду вядром. Восенню мінулага года атрымалі грошы з ваяводскага бюджэту і адразу пачалі ставіць сабе будынак, — успамінае мой суразмоўца.

Зараз пабудова ўжо закончана. У будынку ёсць месцы на лодкі, новая майстэрня і пакоі для ратаўнікоў.

— Летам пятніца, субота і нядзеля, а нават і ў час водпуску, я каля вадасховішча. Працуем мы ад дзевяці раніцы да шасці пасля абеду, а калі трэба

[працяг ☞ 3]

## Ідылічная краіна

Чаго дабіўся Аляксандр Лукашэнка за чатыры гады непадзельнага кіраўніцтва? (...) Яму амаль удалося на практыцы даказаць, што людзей, пажыўшых некаторы час ва ўмовах няхай слабой, але ўсё-такі свабоды і дэмакратыі, можна вярнуць у папярэдняе становішча маўклівай рабочай сілы...

[шырэй ☞ 2]

## Лета на Беларусі

Па палітычных прычынах пра Беларусь пішацца найчасцей дрэнна, а нават вельмі дрэнна. Тымчасам апрача Лукашэнкі і яго каманды ў Беларусі яшчэ звыш 10 мільёнаў людзей, з якіх знакамітая большасць жыве такімі ж праблемамі як і грамадзяне іншых краін свету...

[болей ☞ 4]

## Не дачакаўся прызнання

— Ежы Максымюк, сусветнай вядомасці дырыжор, піяніст, кампазітар. Сам пра сябе гаворыць, што быў вучнем школы Франкевічаў.

— Так. Але, калі б не прафесар, Максымюк ніколі не зайшоў бы так далёка.

[успамін ☞ 8]

## Фэсты з дазволу

Канцэрт прысутным надта спадабаўся. Адна толькі асоба хуліганіла выкрыкваючы непрыстойныя словы ў адрас выступаючых на сцэне. На шчасце хулігана хутка супакоілі...

[артыкул ☞ 9]

## Непаразуменне

Далей пайшло ўсё як у чароўнай казцы. Роўна а дзевятай наступнага дня перад нашай гасцініцай паявіўся ваенны аўтобус. Афіцэр, прывітаўшыся з намі, ветліва запрапанаваў усёй нашай педагагічнай брацii грузіцца. Аўтобус даставіў нас у клуб аднаго з самых слаўных і гераічных нашых вайсковых часцей...

[успамін ☞ 10]

## Кніжная вітрына

Беларускія кніжныя выданні можна заказаць па пошце...

[дэталі ☞ 11]

## Завяршаецца конкурс

Ад 7 чэрвеня г.г., у дзесяці чарговых нумарах нашага штотыднёвіка змяшчалі мы пытанні па геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі. Сёння апошняе ўжо пытанне...

[апошні конкурсны талон ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## Еўрапейская пілігрымка

*(нататкі аб святкаванні 80-х угодкаў БНР у беларускім замежжы)*

*(працяг; пачатак у 29 н-ры)*

**Лонданская „Беларуская вёска"**

28 сакавіка планавалася зрабіць святочную імпрэзу ўжо ў „Беларускай вёскы" толькі для беларускай грамады. Тут ёсць добрая зала, якую ўпрыгожылі да свята. У падрыхтоўчых клопатах зноў завіхалася сп. Алена Міхалюк, ёй дапамагалі сп. Сяргей Дзейка і яго жонка. Разам з імі мы ездзілі на закупку прадуктаў і ладзілі частаванне для гасцей. Сп. Алена Міхалюк асабліва рыхтавалася да гэтай імпрэзы, бо меркавалася таксама адзначыць 50-годдзе ЗБВБ, якое супала з юбілеем БНР. Для спадарыні Алены гэта важная дата, з дзейнасцю Згуртавання звязана многае ў яе асабістым жыцці. Сям'я Міхалюкоў добра вядомая ў Англіі і ўвогуле ў беларускім замежжы. Сп. Янка Міхалюк на працягу 22 гадоў узначальваў Згуртаванне. На жаль, цяжкая хвароба перапыніла яго жыццё. У мінулым годзе спадарыня Алена была абрана на гэтую ганаровую пасаду. Згуртаванне было заснавана беларускімі эмігрантамі ў 1947 г., першым старшынёю быў Вінцэнт Жук-Грышкевіч, у будучым пераехаў ён у Канаду, стаў прэзідэнтам Рады БНР. Сярод стваральнікаў — М. Сенька, С. Будкевіч, Ф. Бартуль. Згуртаванне працавала вельмі актыўна, у хуткім часе за сабраныя сродкі быў куплены Дом у цэнтры Лондана. Затым, набылі дамы ў Брадфордзе і ў Манчэстэры, дзе таксама кіпела беларускае жыццё. Зараз гэтыя дамы ёсць, але, на жаль, апусцелі. Мне давялося пабываць там у 1994 годзе. Вельмі шкада, што мы страчваем беларускую прысутнасць у гэтых гарадах Англіі. Праўда, зараз ёсць надзея, што ў Манчэстэры справы пойдуць лепш. У гэтым горадзе жыве сама сп. Алена Міхалюк. Пасля смерці мужа Алена пераехала туды да сына.

28 сакавіка святочныя мерапрыемствы пачаліся таксама службаю ў царкве, якую вёў а. Аляксандр. На наша Сакавіцкае свята прыпадае рэлігійнае свята Звеставанне. Сімвалічна! Пра гэта было казанне а. Аляксандра.

У $15^{00}$ адкрылася ўрачыстая акадэмія ў гонар 80-годдзя БНР і 50-годдзя ЗБВБ, якую вяла сп. Алена Міхалюк. Сп. Ірэна Гурло зачытала прывітальныя лісты. Як старэйшы сябра Згуртавання, узяў слова а. Аляксандр Надсан, успомніў пройдзены шлях і людзей, якія арганізоўвалі беларускае жыццё ў Англіі. Даклад да 80-х угодкаў БНР зрабіў малады беларус Сяргей Шаўцоў. Затым выступілі Сямён Шарэцкі, Вінцук Вячорка, Радзім Гарэцкі, Ганна Сурмач, Марыя Міцкевіч, Юры Хадыка. Прачытала свае пераклады вершаў беларускіх паэтаў Вера Рыч. Узяў слова беларусіст Джым Дынглі. Ён прыйшоў на свята разам з жонкаю Эляю і дзвюма маленькімі дочкамі ў беларускіх строях. Цяпер разам са сп. Васілём Еўдакімавым яны распачалі і грамадска-палітычную дзейнасць. Імі створана новая арганізацыя „Асацыяцыя дэмакратычных ініцыятываў для Беларусі". Час пакажа, як удасца ім дапамагчы сённяшняй Беларусі.

Пасля акадэміі прайшла сяброўская вячэра, дзе мелі мы магчымасць пагаварыць з сябрамі і знаёмымі яшчэ раз, пабачыць новых людзей. З прыемнасцю сустрэлася я са сп. М. Залогам, які калісьці арганізаваў мне цудоўную экскурсію па цэнтры Лондана, дзе ён жыве ўжо доўгія гады. Пабачылася і з маім даўнім знаёмым Гаем Пікарда, з маладым сп. Мартынчыкам. Увогуле, атмасфера сустрэчы была цёплая, утульная, не верылася, што мы недзе ў далёкай Англіі. На нашым беларускім астраўку мы адчувалі сябе як дома. Вось у гэтым найбольшая значнасць беларускіх асяродкаў у замежжы.

Разыходзіліся мы з сумам позна ўвечары, развітваліся з сябрамі, бо заўтра нас чакаў ад'езд. Чатыры дні ў Лондане прайшлі хутка. Я асабіста не мела нават часу, каб выйсці ў горад, усе дні прайшлі ў клопатах. Трэба было сустрэцца з людзьмі, абмеркаваць планы супрацоўніцтва з „Бацькаўшчынаю", пазнаёміцца з дзейнасцю ЗБВБ, перагаварыць з прыезджымі гасцямі з далёкага замежжа. Нашы сябры з Фонда „Сакавік" выязджалі на поўнач Англіі па пытаннях аздараўлення дзяцей.

*(працяг будзе)*

**Ганна Сурмач**

## Беларускі ліцэй назвалі Нацыянальным

Вучні Беларускага гуманітарнага ліцэя датэрмінова спынілі пікетаванне ў цэнтры Мінска.

Пікетоўшчыкі згарнулі свае плакаты пасля з'яўлення ў друку ўрадавай пастановы, згодна з якой Беларускі адукацыйна-культурны цэнтр, на базе якога дзейнічае ліцэй, ператвараецца ў Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа і, такім чынам, захоўвае сваю самастойнасць. Згодна з пастановай, займацца ў ім будуць да 400 вучняў 8-11 класаў, за ліцэем захоўваецца і будынак па вул. Кірава, змаганне за які вядзецца з мінулага года. Усё гэта ўспрынята ліцэістамі як поўная перамога.

Разам з тым ва ўрадавай пастанове яны бачаць і „падводныя камяні". У прыватнасці, выклікае непакой, што цяпер дырэктар ліцэя будзе „прызначацца на пасаду міністэрствам адукацыі па ўзгадненні з Саветам міністраў", а выкладчыкаў чакае „пераатэстацыя". Ліцэісты і іх бацькі падазраюць, што гэтыя палажэнні накіраваныя на тое, каб „вычысціць" педагагічны калектыў адзінага ў Беларусі цалкам беларускамоўнага ліцэя ад „непажаданых элементаў". Інакш навошта было пачынаць рэарганізацыю? — задаюцца пытаннем у бацькоўскім камітэце.

Але педагагічны калектыў ліцэя паставіўся да пастановы ўрада стрымана. Дырэктар ліцэя Уладзімір Колас назваў дакумент прыкладам разумнага кампрамісу. „З'явілася надзея, што падобныя кампрамісы могуць стаць нормай у нашым грамадстве", — адзначыў Уладзімір Колас.

**Алег Груздзіловіч**

*„Навіны" № 76, 17.07.1998 г.*

## Ідылічная краіна

У беларускіх сродках масавай інфармацыі нарэшце пачалі належна асвятляць жыццё простага народа. Практычна ў кожнай газеце, у кожным выпуску тэле- і радыёнавін прысутнічаюць паведамленні аб ходзе пасяўной, уборачнай, праполачнай і іншых сельскагаспадарчых работ. Кіраўнікі калгасаў і саўгасаў шлюць прэзідэнту тэлеграмы, рапартуюць аб поспехах сваіх калектываў. Дзяржкамітэт па справах моладзі разам з шэрагам сельскагаспадарчых арганізацый праводзіць рэспубліканскае спаборніцтва па ўборцы зерневых і зернебабовых культур у 1998 годзе сярод маладзёжных уборачных экіпажаў. Натуральна, калі ўсе навокал актыўна завіхаюцца, краіна мацнее з дня на дзень — усё расце: валавы нацыянальны прадукт, рэальныя даходы насельніцтва, давер прэзідэнту. Працягваецца развіццё культуры, знаходзіцца месца для святкаванняў. Закончылася будова дома для супрацоўнікаў Акадэміі навук — гэта прэзідэнт падарыў дом вучоным. Выплацілі стыпендыі студэнтам — гэта прэзідэнт клапоціцца аб моладзі. Любое, самае звычайнае здарэнне, якому без нацяжкі можна падставіць знак плюс, звязваецца з імем Лукашэнкі. Кіраўнік дзяржавы нават асабіста адкрывае новыя тралейбусныя прыстанкі і такім чынам праяўляе цікавасць да патрэб жыхароў мікраraёнаў.

Уся гэтая ідылічная карціна зрысавана нават не з васьмідзесятых, а хутчэй усяго з трыццатых гадоў гэтага стагоддзя. Разумны кіраўнік, энтузіязм мас, вялікая самаахвярнасць, першамайскія дэманстрацыі, чырвоныя сцягі, партрэты Леніна, Сталіна, Лукашэнкі. Барацьба з дробнаўласніцкімі інстынктамі шляхам планамернага падаўлення прадпрымальніцкай ініцыятывы аж да поўнай забароны цэлых сфер дзейнасці, напрыклад, прыватнай адвакацкай практыкі. Паказальныя арышты карупцыянераў. Адсутнасць магчымасці легальна купіць валюту. Асноўная маса насельніцтва працягвае займацца тым жа, чым займаліся іх дзяды і прадзеды: выжываць у неспрыяльных умовах.

Фармаванню такой беларускай ментальнасці нямала паспрыяла ўся гісторыя краіны, якая пастаянна знаходзілася не толькі ў цэнтры Еўропы, але і ў цэнтры трагічных падзей гэтага стагоддзя. Людзі прывыклі, што ад знешняга асяроддзя, у тым ліку і ад дзяржавы, яны могуць чакаць толькі непрыемнасцей і таму дзякуюць лёсу ўжо тады, калі іх не надта многа. Максімум, на што яны сёння сабе дазваляюць — гэта ціхае наракание, прычым з нядаўняга часу на кухнях, калі заводзяць размовы аб палітыцы, шчыльна зачыняюць фортачкі. Страх нідзе не прапаў.

Чаго дабіўся Аляксандр Лукашэнка за чатыры гады непадзельнага кіраўніцтва? Ён не сумеў павысіць узровень жыцця насельніцтва, пераадолець эканамічны крызіс і зрабіць многа іншага з таго, што абяцаў. Але іншыя дасягненні беларускага прэзідэнта немагчыма аспрэчыць. Яму амаль удалося на практыцы даказаць, што людзей, пажыўшых некаторы час ва ўмовах няхай слабой, але ўсё-такі свабоды і дэмакратыі, можна вярнуць у папярэдняе становішча маўклівай рабочай сілы. Апрача таго Лукашэнка спадзіцца ўзгадваць беларускіх гралмадстве, якое, між іншым, заўсёды вылучалася рэдкай спакойнасцю і талерантнасцю. Гэты вопыт кіраўніка Беларусі асабліва небяспечны таму, што можа быць распаўсюджаны на Расію. Справа нават не ў прэтэнзіях самога Аляксандра Лукашэнкі на крамлёўскі прастол, хаця снабізм маскоўскіх палітыкаў перашкаджае ім ацаніць рэальнасць гэтай пагрозы. У беларускага прэзідэнта знойдзецца дастаткова многа паслядоўнікаў у самой Расіі, якіх натхняюць рэзультаты яго эксперыменту. І калі не ўспрымаць сённяшнюю сітуацыю ў Беларусі як перасцярогу, праз некаторы час расійская гісторыя папоўніцца яшчэ адной памылкай, якая пацягне за сабой шматлікія страты.

*„Новые известия", 21.07.1998 г.*

## Рыгоравіч, памажы!

Адміністрацыя Краснагорскага раёна Бранскай вобласці Расійскай Федэрацыі звярнулася да Аляксандра Лукашэнкі з заклікам „оказать району гуманитарно-техническую помощь и взять шефство над районом".

Краснагорскі раён мяжуе з Магілёўскай вобласцю. Кіраўніцтва раёна лічыць, што межаў паміж намі няма і беларусам пад сілу ўзяць на парукі расіянаў. „Мы глубоко переживаем за судьбу своей Родины, считая ею не только Россию, но и другие бывшие советские республики... Надеемся, что с вашей помощью сумеем сделать Красногорский район «маленькоi Беларусьою»", — пішуць краснагорскія чыноўнікі.

А можа пайсці далей? Хай забяруць краснагорцы галоўнага беларускага інтэгратара да сябе, і будзе ён прэзідэнтам „маленькай Расіі". **Сымон Глазштэйн**

*„Навіны" № 76, 17.07.1998 г.*

## Новая калектывізацыя

У Краснапольскім раёне Магілёўскай вобласці мясцовая інспекцыя тэхнагляду знайшла ў прыватных гаспадарках 32 „незарэгістраваныя транспартныя сродкі". Чыноўнікі хочуць канфіскаваць у сялян іх „жалезных коней".

Гэта ў асноўным самаробныя трактары, якія вяскоўцы зрабілі сваімі рукамі. Гаспадары кажуць, што сабралі іх з таго металалому, які валяецца ў кожным калгасе на палях-дарогах. Але інспектары заяўляюць, што людзі павінны былі спачатку заплаціць дзяржаве за металалом і толькі пасля гэтага рабіць з ламачча машыны.

У выніку цяпер у Краснапольскім раёне можа адбыцца чарговая „калектывізацыя". У людзей збіраюцца канфіскаваць машыны і перадаць іх у калгасы.

**Сымон Глазштэйн**

*Навіны № 69, 30.06.1998 г.*

## Палітрукі вяртаюцца

Гомельскі аблвыканкам вырашыў, што на буйных прадпрыемствах і ў саўгасах абавязкова павінны быць палітрукі.

На ўсіх прадпрыемствах, дзе працуе больш як 300 чалавек, а таксама ў калгасах і саўгасах, у якіх налічваецца больш за 150 работнікаў, будуць уведзеныя пасады намеснікаў кіраўнікоў „па сацыяльных пытаннях і інфармацыйна-прапагандысцкай рабоце". „Першай ластаўкай" стане Калінкавіцкі раён, а да канца наступнага года палітрукі павінны з'явіцца ўжо ва ўсёй вобласці. План прапагандысцкіх мерапрыемстваў будуць распрацоўваць мясцовыя ўлады, якія вызначаць сістэму, формы і метады працы са СМІ, грамадскімі аб'яднаннямі і палітычнымі партыямі для фарміравання „правільнай" грамадскай думкі. Натуральна, што плаціць зарплату прапагандыстам будуць з унутраных сродкаў прадпрыемстваў і калгасаў.

**БелаПАН**

*„Навіны" № 69, 30.06.1998 г.*

# Насустрач рэформе

У пачатках бягучага года чыгуначная служба здароўя распаўсюджвала паведамленні, каб пацыенты выказаліся, да якой *касы хворых* хочуць належаць пасля ўвядзення рэформы. Дазволіла б гэта цэнтральным органам службы здароўя ПКП абмеркаваць, ці будзе шанц арганізаваць касу хворых работнікам транспарту. У Беластоцкай акруговай амбулаторыі (ОПЛь) патрэбнай колькасці ахвотных не знайшлося. Такім чынам, невядома да якой касы хворых будуць належаць чыгуначнікі.

— Адно зараз пэўнае, — кажа кіраўнік Чаромхаўскай чыгуначнай амбулаторыі доктар Анджэй Лагуна, — будынак нашай цяперашняй амбулаторыі будзе закрыты. Не дазваляюць на ягоную працу патрабаванні САНЭПІДу. А ў пасёлку амбулаторыя неабходная, паколькі чыгуначныя прыёмныя ў Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім будуць закрыты.

Ідучы насустрач новай рэформе, Генеральная дырэкцыя ПКП прызначыла Чаромсе 70 мільёнаў злотых на добраўпарадкаванне новай чаромхаўскай амбулаторыі. Адпаведнае памяшканне для гэтай службы ёсць. Прадбачваецца, што новая прыёмная мае змяшчацца ў былым сацыяльным будынку прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу. Ды знайшліся ў беластоцкай ОПЛь такія чыноўнікі, якія грошы прызначаныя Чаромсе хацелі перакінуць на свае патрэбы. Дзякуючы аднак стойкасці лекара А. Лагуны і войта Чаромхаўскай гміны грошы застануцца на месцы ў Чаромсе. Адна праблема — трэба іх выдаткаваць да канца гэтага года.

Войт абяцаў, што тэхнічная дакументацыя для адаптацыі новай чаромхаўскай амбулаторыі будзе апрацавана да лістапада гэтага года. Апошнія справы таксама будуць весціся хутка. 70 мільёнаў зл. ад ПКП павінны быць выкарыстаны ў свой час. Пасля ўвядзення рэформы аховы здароўя войт абавязаўся яшчэ нешта падкінуць чыгуначнікам са свайго бюджэту. Асноўнае — гэта дамоўленасць!

**Уладзімір Сідарук**

# Адчыніце тэлефон!

Вёска Апака Чаромхаўскае гміны адным канцом утыкаецца ў дзяржаўную мяжу з Беларуссю. Выбрацца з яе можна толькі жвіровымі дарогамі: сем кіламетраў у царкву ў Вэрсток і, больш-менш, па столькі ж у Кляшчэлі і Чаромху.

Вядома, што ў такіх вёсках як Апака, засталіся пераважна старэйшыя людзі. Прадукты то ім прывозяць аб'язныя крамы, а вось да лекара мус самому ехаць. А ўжо сапраўдная бяда, калі трэба паклікаць хуткую дапамогу.

У вёсцы ёсць тэлефон, у хаце солтыса. Але бяда, солтыс памёр. А яго жонка апошні час хварэе і ўжо некалькі месяцаў то ў шпіталі, то ў дачкі ў Чаромсе. Хата зачынена, да тэлефона доступу няма.

Ці не можна было б перанесці тэлефон у іншую хату? — пытаюцца жыхары Апакі. У вёсцы хапае пенсіянераў, якія амаль не пакідаюць сваіх панадворкаў, дык у любую хвіліну можна было б патэлефанаваць. Яны пераказалі б таксама каму трэба, калі б хто з горада званіў.

Цяпер найбліжэйшы даступны тэлефон у Дабрывадзе, пяць кіламетраў ад Апакі. Каб толькі каму гэтая дарога не аказалася задоўгай!

**(ак)**

# Асцерагайцеся прахадзімцаў!

У ціхую і спакойную вёску Мокрэ ўнадзіліся ў апошні час цыганы. Прыязджаюць на аўтамабілях і ўсякія „лапкі" рэкамендуюць.

— Нядаўна прыходзіць да мяне такі асобень, — расказвае Юрка Г., — і прапануе нейкія фаталашкі. Я якраз упраўляўся. Кажу яму: „Змыкай пан стонд!" А той мне пагражаць пачынае, што можам яшчэ сустрэцца!.. А нядзелі дзве назад цыганкі васьмідзесяцігадовую абакралі, адна ў хаце старэча была. Прахадзімкі, упэўніўшыся, што ў хаце больш нікога няма, спустошылі памяшканне. Бабулька хацела выбегчы на вуліцу і паклікаць дапамогу, ды старая цыганіха стаяла ў фортачцы і не выпусціла гаспадыні. Убачыў нахабніц сусед і пазваніў у бельскую паліцыю. Хутка з'явілася паліцыйная машына, але па зладзейках ужо след прастыў.

Зараз макране баяцца пакідаць хаты без догляду. Усякае ж можа здарыцца ў летнюю пару!

**(ус)**

# Вада бывае і здрадлівай

[1 ☞ *працяг*]

і даўжэй, а робім усё грамадска, бясплатна. Карыстаючыся нагодай, хачу ад імя ратаўнікоў падзякаваць усім тым, якія нам дапамагаюць у працы і тым, якія дапамаглі нам пабудаваць новы будынак. Маю тут на ўвазе, перад усім, улады Беластока, Нараўкі і Гайнаўкі, — крыху ўсхвалявана гаворыць Юрка Харкевіч. — Штогод здараецца, што 2-3 асобы ўтопяцца. Знаходзім я асоб і пры дапамозе сваёй „эхасонды", апошнюю на Новы год. Тут вельмі важнае добрае супрацоўніцтва з нараўчанскай і семяноўскай паліцыяй, пажарнікамі і іншымі службамі. Важна, каб не пускаць дзяцей без нагляду дарослых і каб летам плаваць толькі там, дзе за купаннем сочыць ратаўнік.

**Аляксей Мароз**

# Ураган паламаў шмат дрэў

23 ліпеня г.г. вечарам над Бельскам-Падляшскім прайшоў ураган. Разбуральная навальніца трывала каля трыццаці хвілін. Лівень, град і маланкі нанеслі шмат знішчэнняў. Галоўнай вуліцай горада, Міцкевіча, плыў паўметровай шырыні ручай вады. Ураган паваліў ды паламаў многа дрэў. У Праневічах прыдарожныя вываратні парвалі электрычныя лініі. Дарога ў Беласток была ледзь праезнай. На адрэзку Бельск—Храбалы на дарогу паваліліся за дваццаць вываратняў. Добра што зразу працавала дарожная дапамога.

Навальніца пагасала ўсю ноч. На небе ззялі маланкі, ішоў дождж. Так закончыўся трэці, самы спякотны дзень ліпеня са звыш трыццаццю пяццю градусамі гарачыні.

**(гак)**

# Жніва

— Ну і пагода, дзядзьку! — азваўся я да суседа на лавачцы.

— Так трэба, сынок, адпаведная на жніва. Няхай мужыкі жнуць, збіраюць свой плён. А збіраць штораз горш, бо машыны псуюцца, а купіць новыя — дарагавата. Вось і бяда з касьбой. Улады пра жніва не дбаюць. Мінуў гэты час, калі колас быў на вагу золата. Цяпер ім другое ў галаве. Па-першае: дыскусія пра адміністрацыйны падзел краіны і колькасць ваяводстваў, а па-другое: самаўрадавыя выбары ў гмінах. А калі хлеба не стане, заграніца дашле.

— Ну, смех смехам?

— Вось, сынок, якія цяпер жніва. Паглядзі сам як цяпер мужыкі жнуць: дзень у цяньку за клунямі сядзяць і камбайна чакаюць, часта паміж сабою сварацца, каму першаму жаць будзе. У нас на полі нікога не ўгледзіш з касілкай ці снапавязалкай, не гаворачы аб касе ці сярпе. Вось паны парабіліся! А яшчэ наракаюць на мужыцкую долю. А хто ж наракае? Вось такія, як вы, і наракаюць. А пайшлі б самі паказалі б, як жніва выглядала некалькі дзесяткаў гадоў назад. Вось час настаў, важныя сталі тыя, што камбайны маюць. Калі жніва настане, не падыходзь да такога. Перад жнівамі, бывала, едзе самаходам дык і ўклоніцца, а як на камбайн узлезе, не бачыць цябе.

— Не ўсе такія, дзядзька, камбайнеры, не ўсе, — я не згадзіўся.

— Пэўна, што не ўсе. Аднак некалькі гадоў назад інакш было, калі яшчэ існавалі г.зв. кулка, тады і ў нашай вёсцы штодзень адзін камбайн у жніва працаваў. А цяпер тэхніку зацягнулі ў горад, бо Гайнаўцы, відаць, сельскагаспадарчыя машыны больш патрэбныя! За кожнай машынай у горад ехаць трэба. Усіх у гміне не задаволіш, бо вёсак шмат і кожны хоча атрымаць паслугу як найхутчэй. Таму і камбайны спярша ідуць туды, адкуль кіраўнік родам.

— Ну, даволі наракаць, — перапыніў я. — Давайце пра колішняе жніва расказваць.

— Падыходзіла пара жніў. Бацька кажа: „Бяры, сынок, сярпы і едзь у Асоўку". Гэта маленькая вёсачка на поўдзень ад нашай. У Асоўцы жыў каваль, які ўмела сярпы зубіў. Гэта быў паляк, выдатны рамеснік і добры чалавек. І вось сярпы гатовыя. Зажыналі ў суботу, а гарачы час жніў цягнуўся два-тры тыдні. Жыта і пшаніцу сеялі ў адным палетку. І калі ўвойдзеш усярэдзіну жыта падчас жніў, такі водар хлеба авее, аж закружыцца ў галаве. Пах хлеба пачуе мужык. Ён яго толькі разумее, таму што сеяў яго, даглядаў, хадзіў як каля хворага. І баяўся калі бура надыходзіла, прасіў Усявышняга, каб навальніцу і град паслаў на лес або на рэчку. І вось, нарэшце, сэрца забіла мацней, бо ўбіраць хлеб дачакаўся мужык. А добры плён цэняць сялян і сіл да працы ім дадае. Дзеля гэтага Бог і стварыў сялян, каб яны варочалі зямлю і кармілі людзей. Памятаю, ад нашай клуні, паміж палеткаў сцяжынка вяла, ва ўсходне-паўночным напрамку, па якой у поле ішлі, у царкву да другое вёскі, ці на рынак у горад. Вось гэтай сцяжынкай пайшлі зажынаць. Бацька мой спрытна рэзаў сярпом. Казаў: „Сынок, глядзі, жменя павінна быць вялікая і роўная". Аднак мне гэтак не атрымоўвалася. І не навучыўся я прыгожа жаць. Час не дазволіў, бо тэхніка прагнала сярпы. Замянілі іх косы. Памятаю, як упершыню ўгледзелі поле, на якім касілі касой. Ой, Божа мой, Божа, колькі мой бацька пляваў, наракаў і паціху праклінаў: „Негадзяй, абібок, лодыр, хлеба не стане яму. З торбамі такога пусціць. Паглядзіце, палова калосся на полі ляжыць".

— Так, так, — згадзіўся я. — Цяжка новае ўваходзіць у жыццё.

— Аднак час робіць сваё. І косы прапалі, бо жняяркі і касілкі выгналі іх. Цяпер і гэта прапала. Збожжа ў нас не звозяць у клуні, як гэта рабілі даўней. Плахтамі вазы выкладалі, каб страт менш было, а цяпер трактарамі ў прычэпах з поля цягнуць зерне, а некаторыя адразу ў элеватары вязуць. Вось, каб убачылі тыя, што ад нас даўно адышлі, напэўна сказалі б, што без хлеба седзімо! А тут усё наадварот. І хлеба ўдосталь у нас, і яшчэ колькі можам прадаць. Час змяніўся. І дзякуй Богу за гэта.

— А што мы пакінем нашчадкам сваім? — запытаў я.

— Пра гэта неаднойчы думаю сам. Асталося спадара Майсеню прасіць як найхутчэй адкрыць Музей. Пара нам памяткі аб пройдзеным збіраць, пакуль не знішчыў іх час і чалавек. Няхай на гэтай зямлі і наш след астанецца. Няхай нашчадкі ведаюць, як мы пачыналі і свой век пражылі, якія змены прыносіў нам час. Гэта ж гісторыя нашай зямлі. І калі падумаеш, што ўжо надыходзіць восень жыцця, аж не хочацца верыць, што так мала часу асталося нам. А так хацелася б убачыць, што наступны дзень прынясе. А я аб адным толькі прашу: дай Божа пажыць і наступных жніў дачакаць.

— А колькі іх ужо будзе ў вашым жыцці?

— Вось і не адкажу. Аж страшна лічыць. Аставайся здаровы! Нашы прыехалі з поля, пайду прывітаю, а можа і што дапамагу? Бо хто есць, дык павінен і працаваць.

**Грыша Мароз**

# Пенсіянеры, а не мільянеры

Найбольш хвалюючай чарамшукоў справай з'яўляюцца зараз тэлефоны. Польская Тэлекамунікацыя (як вядома, манапаліст) прапанавала арганізаваць грамадскія камітэты тэлефанізацыі, у рамках якіх прылучэнне тэлефона ў хату каштавала б 1500 злотых.

Чарамшукі на гэта не прысталі. Пасол у Сейм Сяргей Плева абяцаў на сустрэчы наладзіць кантакт з фірмай „Рэтэль". Да сёння — без выніку. Ахвотных мець тэлефонную трубку можна налічыць з усяе гміны каля 250-300 чалавек — гэта ўжо штосьці! Таму ў Чаромху штораз з'яўляюцца прадстаўнікі паасобных фірмаў і прапануюць свае паслугі. Вось у нядзелю 5 ліпеня з'явіліся ў мясцовым асяродку культуры прадстаўнікі фірмы RAMSAT-TELE-SYSTEM. Іхняя прапанова была даволі заманлівай — тэлефон усяго за 262 зл., напалову таннейшы месячны абанемент. Але калі прысутныя пачулі, што справа тычыцца сотавых тэлефонаў, стала ім вядома, што з гэтай мукі хлеба не будзе, бо хто зможа плаціць за хвіліну размовы 1,50 злотых?

— Мы не мільянеры, а пенсіянеры, — пачулася ў зале. — Не на нашы кішэні такія тэлефоны... — і незадоўга з немалой групы (больш сарака зацікаўленых) засталося ў зале толькі некалькі чалавек, бо чаго ж непатрэбна траціць час! Цікава, якая фірма завітае да нас у наступны раз?

**(ус)**

# Лета на Беларусі

**Па палітычных прычынах пра Беларусь пішацца найчасцей дрэнна, а нават вельмі дрэнна. Тымчасам апрача Лукашэнкі і яго каманды ў Беларусі яшчэ звыш 10 мільёнаў людзей, з якіх знакамітая большасць жыве такімі ж праблемамі як і грамадзяне іншых краін свету. Для тае большасці найважнейшае пытанне — як прыдбаць грошай і расходаваць іх згодна са сваімі прыватнымі патрабаваннямі. Для адных такім асноўным патрабаваннем — пакупка кілаграма каўбасы, другім — паездка на адпачынак у Балгарыю, яшчэ іншым — замен старога „форда" на новае „аўдзі".**




**На ўсходняй мяжы без перамен**

Паездка з Польшчы ў Беларусь штораз больш складаная. Апрача фармальных складанасцей, пра якія часта пісала прэса, з'яўляюцца ўсё новыя нечаканасці, якія могуць сустрэць наведвальнікаў Беларусі. Рэзка абмежавалася колькасць аўтобусаў, якія адпраўляюцца з Беластока ва ўсялякія гарады рэспублікі. У сярэдзіне ліпеня, падчас турыстычнага сезона, без ніякага паведамлення быў абмежаваны да аднаго ў тыдзень курс цягніка Беласток — Масква, якім раней выгадна можна было трапіць у сталіцу Беларусі. Цяпер чыгуначным транспартам найхутчэй можна даехаць у Менск цераз Варшаву.

Едучы з Беларусі найлепш трапіць у польскі вагон, таму што не раскручваюць іх на мяжы нейкія дзіўныя асобені, якія быццам бы прадстаўляюць польскія мытныя службы. У Тэрэспалі, у беларускім вагоне, якім мне прыйшлося вяртацца з Менска адкруцілі кожную шрубу, заглянулі ў кожную шчыліну, а адзін чэкіст у нейкім дзіўным камбінезоне абнюхваў усе куткі не горш за сабаку. Узровень хамства па абодвух баках мяжы вельмі падобны і безумоўна з'яўляецца ён адлюстраваннем палітычных адносін паміж Польшчай і Беларуссю. На беларускай мяжы патрабуюць цяпер ад іншаземцаў запоўніць дзве аднолькавыя дэкларацыі. Тамашнія чэкісты ўсё яшчэ абараняюць Савецкі Саюз і нават не заўважылі, што ад некалькіх гадоў яго ўжо няма.

**Ізаляцыя**

У Менску 24 ліпеня шмат асоб збіралася ў Вільню на канферэнцыю прысвечаную беларусам, што пражываюць у Прыбалтыцы. Якое ж было здзіўленне дзеячаў беларускіх арганізацый, калі ў літоўскім пасольстве сказалі ім за візу заплаціць 40 долараў. Гэта палова сярэдняй зарплаты ў Беларусі, больш чым адна зарплата настаўніка. Раней цана візы была нашмат ніжэйшая, але і так рух на мяжы з гэтай краінай быў невялікі. Цяпер праезд у краіны Прыбалтыкі грамадзянам Беларусі гэта такая ж складанасць як у Заходнюю Еўропу. Ізаляцыя, ці, як некаторыя пішуць, самаізаляцыя Беларусі сталася фактам.

**Жыццё як бы плыве нармальна**

Калі б не кантактавацца з жыхарамі Беларусі звонку, усё выглядала б прыблізна так, як прадстаўляе гэта прэзідэнцкая прапаганда. У цэнтры Менска адрамантаваныя тратуары, вуліцы і дамы. У дзяржаўных крамах можна купіць усе асноўныя гатункі харчовых прадуктаў. Толькі па-ранейшаму смурод, які стаіць унутры савецкіх крамаў проста адпіхае пры самым уваходзе, а тавар „дзевушка" падае без ніякай упакоўкі. Калі, напрыклад, пакупнік мае ахвоту купіць сыр і забыўся ўзяць з сабою адпаведную паперу ці сумку, найлепш тады пабегчы да найбліжэйшага кіёску, набыць „Советскую Белоруссию" (найтаннейшая) і такім чынам кліент не будзе вымушаны трымаць прадукт непасрэдна ў далоні.

У прыватных крамах тавараў як бы больш, з'явіліся таксама фіскальныя электронныя касы і маладыя прадаўшчыцы, не памянялася толькі культура абслугоўвання. „Дзевушкі", якіх за прылаўкам тры разы больш чым трэба, так занятыя сабою, што рэдка калі звяртаюць увагу на пакупнікоў. У нармальнай сістэме, дзе пра ўзровень жыцця кожнага чалавека вырашаюць правілы рынку, такая сітуацыя была б немагчымай. Але ў Беларусі не можа быць беспрацоўя, таму ніхто не вымушаны клапаціцца пра якаснасць свае працы. У крузе гэтай палітыкі знаходзіцца таксама г.зв. прыватны бізнес, дзе захоўваюцца адпаведныя нормы занятку.

Армію патэнцыяльных беспрацоўных відаць усюды. Яна, пакуль што, на фіксійных штатах, але гэта рак, які знішчыць кожную структуру. У архівах, бібліятэках і рэдакцыях сядзіць натоўп людзей, якія толькі правяраюць пячаткі і подпісы на ўсялякіх пропусках, якія выпісалі іхнія калегі, што сядзяць побач. Адзін каля аднаго сядзяць кантралёры ва уніформах і без уніформаў. Немагчыма ад іх нічога даведацца, а адзіны адказ, які можна ад іх пачуць: „Идите вот туда, и там вам всё скажут".

**Жыгулёўскае агульнадаступнае**

Пасля пару тыдняў дажджу 24 ліпеня на Беларусь прыйшла сапраўдная спякота. У Менску ў цяні было 37 градусаў. Людзі хадзілі з бутэлькамі напояў у руках. Аднак штурм жыхароў сталіцы на мінеральную ваду і піва беларуская гаспадарка вытрымала лепей чым у мінулым годзе польская. Вада была агульнадаступнай ва ўсіх пунктах продажу. Сокі замежнай і краёвай вытворчасці стаяць непарушна таму, што даражэйшыя ад гарэлкі. Піва таксама можна купіць на кожным кроку. Праўда, няма вялікага выбару, але агульнасавецкае „Жыгулёўскае" стаіць у кожным кіёску і кожнай краме. На праспекце Скарыны, цэнтральнай вуліцы Менска, шмат піўнярняў пад адкрытым небам. За адзін долар без ніякай чаргі можна купіць 4 куфлі найлепшага лідскага піва. Больш аматараў мае аднак таннейшае „Жыгулёўскае", але вытрымаць яго можа не кожны страўнік.

**Рэстараны для „дзелавых ліц"**

Тыя, што маюць грошы, не патрабуюць візаў, каб гуляць на такім узроўні, які гарантуецца ў Італіі, Францыі ці іншых краінах г.зв. Захаду. У Менску шмат рэстаранаў, дзе можна з'есці абед у цане 100 долараў на асобу, выпіць піва, якога цана за паўлітровую бутэльку адпавядае вартасці тыдня працы настаўніка і памыць рукі ў туалеце не горшым чым у варшаўскім „Марыёце". Шмат такіх рэстаранаў, трохі прыхаваных, каля вуліцы Нямігі і праспекта Машэрава. Найчасцей таксама ўсе месцы ў іх занятыя. Афіцыянткі, якія па сваёй натуры з'яўляюцца цудам прыроды, вельмі ветлівыя і аператыўныя. Унутры залаў казачны свет раслінпасці і рамесніцкага прафесіяналізму. Стараўся я даведацца, хто наведвае гэтыя рэстараны. Адзін з мясцовых журналістаў пачаў мне пералічваць гасцей: „Тых чатырох з маладымі дзяўчатамі — людзі з адміністрацыі прэзідэнта, той — дырэктар дзяржаўнай фірмы, а там — салдаты мафіі..., дзелавыя ліца, як у нас іх называюць у тэлебачанні".

**Чысты горад**

Ідучы па вуліцах сталіцы Беларусі няма нічога, што нагадвала б той вобраз, які прадстаўляецца ў польскіх сродках масавай інфармацыі. Вуліцы падмецены, трава ў парках ды іншых месцах скошана, сотавыя тэлефоны ў руках маладых людзей і маса жанчын незвычайнай прыгажосці. З другога аднак боку відаць, што трошку далей ад цэнтра тратуары нерамантаваныя ад савецкіх часоў, лаўка ў парках вялікая рэдкасць, а каля сметнікаў раз-пораз нехта прыярае іх змесціва. Пажылыя людзі хапаюць кожную паперку, якую можна прадаць у пунктах прыёму адпадкаў.

Летам, а асабліва ў пятніцу пасля абеду, гарады ў Беларусі пусцеюць. Аж цяжка паверыць, што растрыбушаныя аўтобусы прыгарадскога транспарту могуць памясціць столькі людзей. Аўтобусы, з якіх толькі адзінкі даўно павінны стаяць у музеі, усе штодзённа праязджаюць парусот кіламетраў. Па прычынах колькасці пасажыраў узнікае там толькі праблема як зачыніць дзверы, але, нягледзячы на іх лічбу, савецкая тэхніка спраўляецца дасканала. Аўтобусы амаль заўсёды зварухнуцца з месца, а пасажыры не заўважаюць нічога асаблівага ў такім стане транспарту. Так было заўсёды, значыць — усё нармальна.

Спакойна плыве жыццё на Беларусі, людзі рыхтуюць на зіму запасы салёных агуркоў, вараць маліны, ягады. Самагонку не аплочваецца рабіць самому. Гарэлка ў крамах такая танная, што перакрэслівае сэнс хатняй прадукцыі алкаголю.

**Яўген Міранович**



*25-26 ліпеня г.г. у Вільні ў будынку былой Беларускай гімназіі адбыўся II З'езд беларусаў Балтыі, на які запрошана была таксама дэлегацыя з Беласточчыны. Шырэй пра гэту сустрэчу ў наступным нумары.*

Фота Міры Лукшы

Міхась Андрасюк

# Краявід без клямкі

*(працяг; пачатак у 31 н-ры)*

II

Сусед з левага боку таксама адзеты ва ўціхамірвальную кашулю, ды мала яшчэ, табе арыштавалі адно рукі, а яму і ногі ўзялі ў палон. Кажуць — круглы год так ляжыць. І толькі вочы неспакойна бегаюць над непабрытымі шчокамі. Калі б не дзіўная вопратка, можна падумаць — балельшчык ён і сочыць за шарыкам для пінгпонга: зірк налева, зірк направа; налева і зноў направа. Хто ведае, мо ў нейкай школе і займаецца ўжо нікому невядомы перадавік, вывучае пільна біялогію, хімію і матэматыку, а ў будучыні сканструюе ўціхамірвальны халат і паўстрымае Дзёдзевы вочы? А пакуль што — такую функцыю выпаўняе пані Крыся. Узброеная ў вазок, талеркі і лыжкі, пахучая заціркамі і соўсамі, саноўна пераступае парог і нешматлікія тут зарыентаваныя ў цячэнні часу, здагадваюцца: гадзіна больш-менш сёмая.

— Будзем карміць Дзёдзя. Так, Дзёдзё? Праўда, будзем карміць? — пытае сама сябе, але Дзёдзё таксама нешта разумее, разбеганыя вочы тармазяць раптоўна, прыліпаюць да лыжкі, адпачываюць пасля доўгай дарогі.

— Адна лыжка за ма-му, другая за та-ту, трэцяя за ...

— Дзёдзя, — апошняе слова выконваюць у дуэце — на цёплы альт пані Крысі накладаецца Дзёдзеў, неакрэсленага гатунку голас. На жаль, кожная талерка, якая б яна не была, мае сваё празаічнае дно і Дзёдзевым вачам пара збірацца ў дарогу. Дык збіраюцца, на пачатку памаленьку, ступою, хутчэй і хутчэй пераходзяць у рысь, аж разбуджаныя нябачнай шпаркасцю і непрыкметнай прастораю, і ветрам няўлоўным, зрываюцца ў галоп, і гоняць у свой, мала каму зразумелы свет.

... вочы чорныя, вочы хмурныя,
вочы-ездакі,
вочы коннікі,
хто стрывае вас, хто стрымае вас,
вочы-ездакі, вочы-коннікі...

А цябе ўжо не кормяць. Праўда, яшчэ раніцой пані Крыся, абыякава неяк, без лішняй ангажыроўкі ўліла ў цябе малочную порцыю, вось і ўсё. Працуй, страўнік, адпачывай, галава. А недзе пад абед прыйшоў пан Франак і адным спраўным рухам вызваліў цябе з няволі.

— Ідзі, — кажа — душа грэшная, выпрастуй косці. І паслухмяная будзь. Паслухмяных не вяжуць.

Няпраўда, пан Франак. Вяжуць і пакорлівых. Бляху блісkучую на грудзі, гадзіннік на руку, дыплом на сцяну. Наймацнейшыя вузлы з малых прывілеяў. І не парваць іх голымі рукамі. А тут сказана „ідзі", значыць — трэба выканаць. Вось і ідзе душа, туды, адкуль чуецца пах нікаціну. Пабачыць Венецыю і памерці. А перш за ўсё — закурыць.

— Пан, пачастуй цыгарэтай, — азываешся. Пан у зялёным уніформе каўтае якраз салідную порцыю дыму, ігнаруе цябе, а добра вядомы арамат навылёт пранізвае мазгі. Яшчэ, здаецца, хвіліна і выскачыш са шкуры!

— Пан, закурыць...

— Кастра ён. І не хляпай „панам", бо ў зяпу заробіш, — падказвае чыйсьці ласкавы голас. — Калі сапраўды хочаш закурыць, скажы камэрадэ. Або таварыш.

А закурыць хочацца сапраўды, дык кажаш „таварыш" і курыш ужо, прагна, абы хутчэй. І сам сабе даеш адпушчэнне: бывае, для меншай карысці ідуць у таварышы.

А помніш? Ёсць у школе такі прадмет — прапедэўтыка. І сам дырэктар пытае цябе: хто першы сакратар ПАРП? Пытаць пра такія рэчы ў суботу, пасля абеду, звычайны садызм. Чалавек задумоўваецца з кім будзе танцаваць „Пад дубамі", плануе як выкарыстаць час пасля танцаў, а тут вось хочуць ведаць, хто першы ў ПАРП. Асобу ведаеш, але ж не скажаш так звычайна: Герэк. Значэнне чалавека не ў прозвішчы, выпадковым наогул. Прозвішча трэба чалавеку, каб было да чаго прышпіліць прыбавачныя вартасці нашага існавання. Прафесар, доктар, ваша вялічаства, ваша высакосць. Стаіш і думаеш. А думаць трэба хутка, дырэктар глядзіць на цябе бы на нейкі палітычна запознены элемент і яго цярплівасць мае таксама сваю непарушную мяжу. Пан Герэк? Абывацель Герэк? Усё звычайна, усё не так, гучыць фальшыва бы расстроены раяль. Кажаш тады, як і чуеш штодзённа з тэлевізара: першы сакратар ПАРП — таварыш Герэк. Значыць — выратаваўся. А дырэктар — дзеля дакладнасці — паясняе, што Эдуард Герэк яшчэ табе не таварыш. Дырэктару ён таварыш, і сакратару раённага камітэта партыі, і Толіку Дубоўскаму, як старшыні гуртка сацыялістычнай моладзі, таксама Эдуард Герэк таварыш. А табе — пакуль яшчэ — не. Але можаш запісацца, уступіць, прыступіць. Закончыш васемнаццаць і да-вай будаваць будучыню! Лепшую за добрае сёння. А тэлевізар, ідучы з дапамогай дырэктару, каторы ўжо раз пытае: Таварышы, паможаце? І рабочыя — хто таварыш, а хто і не — згодна адказваюць: Паможам!

А помніш Пецю? За акном восень імглістая і залатая, час інфантыльнай настальгіі, пара калі сеюць благія паэты, а плён збіраюць добрыя земляробы.

— Залатая польская восень на беларускай Гайнаўшчыне, — кажа Пеця. Упіхае за нагавіцы спелае восеньскае яблыка, узлазіць на парту і таксама хоча ведаць: — Дзяўчыны, паможаце?

Дзяўчыны хіхікаюць і войкаюць, збіваюцца ў кучу, як спалоханыя ястрабавай атакай кураняты. Не з-за страху прыгартаюцца дзяўчыны да сябе. Напятыя нагавіцы — не такі ўжо і вялікі страх васемнаццатцы. Для прыстойнасці ўсё. Рабочыя дэманструюць сваю гатоўнасць на вуліцах, на мітынгах, заўжды натоўпам, пад лопат штандараў і транспарантаў. Дзяўчынам трэба больш камерныя, так сказаць — інтымныя, умовы. Вечар, парк, музыка. А калі ўжо нешта чырвонае — тады выключна віно.

Заўтра будзе „выпіска". Дасланыя бацькамі грошы ляжаць у шпітальнай канцылярыі і можаш заказваць гарбату, цыгарэты, духі. Санітарка ўсё прынясе. Заўтра куры-закурыся, а сёння ты прысуджаны на кубінскую дапамогу. Тупаеш наўкол Кастра, у вочы заглядаеш, хвалішся, што ты — равеснік ягонай дэмакратыі. Танна прадаеш сябе і ведаеш аб гэтым. Праўда, можаш інацай, можаш крыкнуць: — Я, беларус! Паглядзіце, там, за лесам — мая імперыя! Я не пращу, я патрабую! Маўчыш аднак. Не зразумеюць. — А, беларус, — скажуць. — Значыць, рускі. — Бо ўсё тут, калі не польскае, тады напэўна рускае. Просты падзел. Хай тады будзе рускі. Пес чылі кот, як у кабарэ. Сабака, пес, кот — Масква разберэт, — рыфмуецца міжвольна. А калі ўжо пачынае нешта табе рыфмавацца, заўжды прыходзіць на памяць Віця Валасюк. — Што за ён, — спытаеце, — гэты Віця? А вось, Віця не абы-хто. Папярэднік, так сказаць — што і бацька ён усім скандалістам беларускай літаратуры. Каторы год змагаўся з шостым класам, Гуменюкі і Адамовічы кашулі ў зубах яшчэ насілі, калі злажыў Віця свой першы верш:

„Я мужык беларус,
валасамі х... аброс,
жонку з ложка сцягнуў,
яйцы крыху прыгнуў..."

А вам не хочацца ў мужыкі. Адразу ж прыгадваюцца дзядзькі ў бараніх кажухах, цёткі ў доўгіх памятых спадніцах, згорбленыя, ашарашаныя гоманам і незразумелаю мітуснёй, асцярожна ступаюць доўгімі калідорамі павятовых „ужэндаў", апынуўшыся пад дзвярыма, сукатымі далонямі папраўляюць ваўняныя хусткі, пакорліва здымаюць шапкі-вушанкі. Сарамліва аглядаюцца за сябе, на блісkучыя ад воску паркеты, дзе, як дакор сумлення — вужовай сцежкай цягнецца след іхніх валёнкаў. Непрыкметна, шоргаючы галёшамі направа і налева, стараюцца выцерці расталы, перамешаны з балотам снег, быццам бы вымазвалі з гарадской памяці сваю тут прысутнасць. Вось чаму і не хочацца вам у мужыкі. Хіба што — у такія як у Віцевым вершы, хвацкія. І ўся школа ведае Віцеў верш, а першапачатковую версію — нешматлікія. Адзін хіба Аркадзік Саўчук. Але Аркадзік гжэчны. Аркадзік не б'ецца ў час перапынкаў, не мацюкаецца, не курыць у школьным нужніку. Аркадзік першы ў школе матэматык і першы паланіст. Першы біёлаг і гісторык. Увогуле, — як сказаў Віця, — таньчы, сьпева, рэцытуе, дае д... і стэпуе. Памыляешся ты, Віця. Насміхаешся дарма. Міне гадоў пятнаццаць і пойдзе Аркадзік у афіцэры, у Варшаву, у польскія прымы. Не голы пойдзе, з пасагам. З ведамі, з зоркамі на пагонах. Аркадзіўш? Аркадыюш? Эх, алфавіт беларускі, дурны ты і бедны! Нат Аркадзікава новае імя не ўмееш запісаць!

А ты, Віця, дзе ты сёння? Якія вершы пяром складаеш? Паўтараў ты — у дарозе і стараха дар божы — ды насіў, што пад руку трапіць. Ровар, машына, паходжаны пінжак. Парогі якой турмы — гайнаўскай ці беластоцкай — абіваеш дзяржаўнымі чаравікамі? Але — прабач Віця — малаважнае, не пра цябе тут ідзе гаворка.

Заўтра будзе „выпіска", заўтра — куры-закурыся...

***(заканчэнне будзе)***

# Польскамоўная спадчына

Апошнім часам у беларускім літаратуразнаўстве адбываецца працэс вяртання ў літаратурны кантэкст небеларускамоўнай творчасці, якая легла ў аснову новай беларускай літаратуры. Да гэтай пары яна не заўважалася не таму, што пакінула далікатны след у літаратуры, але таму, што яна была польскамоўная. Разглядаючы ўласна беларускую творчасць, даследчыкі пакідалі па-за полем зроку польскамоўныя творы з-за іх іншамоўнасці, машынальна прылічаючы іх да польскай літаратуры і не звяртаючы ўвагу на іх ролю ў станаўленні новай беларускай літаратуры. Цяпер прыйшоў той час, калі літаратуразнаўцы вяртаюць іх у беларускую літаратурную сітуацыю цераз беларускі пераклад. Прыкладам гэтаму можа паслужыць том беларускай польскамоўнай паэзіі XIX стагоддзя „Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай"*, які склаў і каментарыямі папоўніў Уладзімір Мархель. У прадмове складальнік зборніка падкрэслівае, што адраджэнскія тэндэнцыі беларускай літаратуры ў XIX стагоддзі выспявалі ў дзвюх сферах. У сялянскім асяроддзі, якое захоўвала беларускую мову і фальклор, з'яўляліся паэты і літаратурныя творы. У шляхецкім — польскамоўныя аўтары, ураджэнцы беларускіх зямель, у творчым працэсе карысталіся мясцовым фальклорам, цікавіліся жыццём мясцовага насельніцтва ды імкнуліся распаўсюджваць свае творы сярод сялян. Некаторыя паэты, напрыклад, Ян Баршчэўскі, Ян Чачот ці пазней Францішак Багушэвіч, Янка Лучына адчулі ўнутраную патрэбу тварыць і на беларускай мове, працягваючы таксама пісаць і па-польску.

Зборнік складаюць вершы 71 паэта і друкуюцца яны паралельна — у польскамоўным арыгінале і перакладзе на беларускую мову, зробленым сучаснымі беларускімі літаратарамі. Сярод гэтай паэтычнай плеяды знаходзім і беластоцкі след. Менавіта ў зборнік трапіў верш „Песня свата на сялянскім вяселлі" Ігната Кулакоўскага, аўтара выдадзенай у 1824 годзе ў Вільні кніжкі „Zabawki wierszem".

Ігнат Кулакоўскі — ураджэнец сённяшняй Гродзеншчыны. У 1850 годзе пераехаў ён у маёнтак Крыштапарова на Сакольшчыне. Настаўнічаў, быў дырэктарам Інстытута шляхетных дзяўчат у Беластоку, вёў шырокую навуковую і культурна-асветную дзейнасць — супрацоўнічаў з Віленскім музеем старажытнасцей, быў членам Віленскай археалагічнай камісіі і навуковых таварыстваў у Вільні, Варшаве, Пецярбургу, Капенгагене і Лондане. У 1834 годзе Кулакоўскі накіраваў міністру асветы Расіі пісьмо, у якім даводзіў неабходнасць пашырэння адукацыі для мясцовага насельніцтва, вывучэння мовы беларускага народа, яго этнаграфіі, мастацтва і гісторыі. Пісаў ён тады, што беларуская гісторыя „паглынута гісторыяй палякаў або ледзь упамінаецца ў гісторыі Расіі" і прапанаваў стварыць падручнік „Гісторыя краю".

**Віталь Луба**

* *Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя. Вершы.* Укладанне, прадмова і каментарыі Уладзіміра Мархеля. Мінск 1998, сс. 622.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*На канікулах у бабулі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Рабінавая ноч

Калі ўсю ноч небам патрасаюць грымоты, бліскаюць маланкі, лье праліўны дождж і дзьме страшэнны вецер, значыць здарылася рабінавая ноч — верылі старажытныя беларусы.

Рабінавай ноччы чакалася звычайна ў канцы лета, пераважна ў *Спасаўку*. Людзі верылі, што ў гэтую ноч на свет выходзяць усе злыя сілы і спраўляюць сваё гадавое свята.

Нечысць гэтая расплодзілася пасля Купалля і шкодзіла людзям. У рабінавую ноч усе стыхіі — гром, маланка, ураган, лівень яднаıліся і супольнымі сіламі знішчалі нячыстую сілу. Кожны забіты ў гэтую ноч перуном лічыўся нядобрым чараўніком. Параненага чалавека ці жывёлу нельга было ратаваць. Каб маланка не спаліла хаты, людзі вывешвалі непамыты велікодні абрус, у некаторых мясцінах пад страху прывязвалі чырвоныя ніткі.

Сама назва ночы найхутчэй звязаная з павер'ем, што навальніца спрыяе выспяванню ягад на рабіне.

Нашы продкі варажылі надвор'е, назіраючы рабіну. Калі ягады пасля такой ночы не спелі, значыць набліжаецца халодная восень. У некаторых рэгіёнах Беларусі рабінавую ноч звалі таксама вераб'інай.

**Зорка**

Мілена Роля

## Яблыкі

Нарадзіўся Міхаська,
Калі бацькі ўсім казалі,
Што дзетак сваіх ужо адхавалі.
Быццам зіма вярнулася,
Калі вясну ўсё чакае
І марозным ранкам у садзе
Цвет з дрэў абсыпае.
Нялёгка было матулі
Сыночка свайго калыхаці,
Штоноч спяваць люлі-люлі,
Карміць, перавіваць і купаці.
Аднак
Бацькі за Міхаськавай справай
Найбольш радасці дачакалі.
У пашане з яго сям'ёю
Шчасліва свой век дажывалі.
Не сумуй, дарагі чытач,
Што яблыня свой цвет патраціць
Вясны выглядаючы
з чатырох света старон,
Бо праз год, мабыць, яе галіны
дадуць багаты плён.

## Два светы

За гарамі, за лясамі,
За шырокімі вадамі,
У зусім інакшым свеце,
Дзе і сонца мацней свеціць,
Там з бараном ваўкі сябруюць,
З пеўнікамі лісы балююць,
Спяць пад адным кустом,
Дзеляцца адным бабком.
А ў нас?
З пеўня косткі засталіся,
Яны з лісой так любіліся.
З'елі зноў авечку ваўкі,
Пеўні ліску задзяўблі!
Як бы гэтага было мала,
Тэлевізія сказала,
Што воўк згінуў пад рагамі!
Што ж то будзе, людзі, з намі,
Калі аб такіх перыпетыях
Пішуць у штодзённых газетах?!

## Вершы Віктара Шведа

### Татка харошы, дай грошы

Прыбягае Ясь дахаты:
— Дай два злоты, мілы тата.
— А навошта табе грошы?
— Пан на вуліцы харошы.

— Таму пану, мілы сыну,
Панясеш ты міласціну?
— Не, пан гэты не жабруе,
Ён марожаным гандлюе.

### Яшчэ нежанаты

На вуліцы паліцыянт
Сустрэў апоўначы малога.
— Чаго тут шляешся ты, франт?
Табе мая перасцярога:

Павінен ты як найхутчэй
Вярнуцца да бацькоўскай хаты.
Малы на гэта: — Зразумей,
Яшчэ ж зусім я нежанаты.

### Камплект

У скрыначцы згодна фарбы жылі,
Ніколі ніякай вайны не вялі.
Калі фіялетавай многа малявалі,
Чырвоная з сіняй яе заступалі.

Аднойчы пэндзлік пейзаж
маляваў:
— Ах як жа тут многа кустоў,
дрэў і траў!
Сяброўкі якраз манікюр рабілі,
Пра сястрычку зялёную
зусім забылі.

Зялёная фарба пацее, працуе:
— Ці хто-небудзь мяне пашкадуе?
Сіняя з жоўтай якраз леглі спаці,
А пэндзлік-псотнік
усю фарбу патраціў.

Назаўтра ў скрыначцы такое
аказалася,
Што ў зялёным кубачку
нішто не асталася,
І так праз няўвагу і без волі злое
Пусты астаўся зялёненькі слоік.
Ці цяжка фарбам дажыць будзе век
Знаючы, што яны — не камплект?

# Польска-беларуская крыжаванка № 32

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ▶ | ▼ | | | ▼ | Teatr | ▼ |
| Dukat / Herbata | | Huragan / Róża | Brat | | Grzęda | |
| ▶ | | ▼ | ▼ | | | |
| Zespół ▶ | | | | | 📖 | |
| ▶ | | | | | 📖 | |
| Pożar / Natura ▶ | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 28:** Стужка, шкура, логава, яна, кара, гонар, рак, пляткар. Шлях, скон, туга, бура, ранак, рака, ганарар.

# За сем дзяўчат прыгажэйшая

**(нямецкая казка)**
*(заканчэнне;*
*пачатак у папярэдняй „Зорцы")*

А прынц ад гора сябе не памятаў. Як пачуў, што дом яго суджанай згарэў, зачыніўся ў сваіх пакоях і думае: „Пэўна, і нарачоная мая, якая за сем дзяўчат прыгажэйшая, у доме згарэла". Кароль жа вырашыў сына ажаніць, каб ён Сямікрасуню забыў. Хацелася старому каралю дзяржаву сыну яшчэ пры жыцці перадаць. І без каралевы тут ніяк не абыдзешся. Хоць не мог прынц Сямікрасуню забыць, клятву парушыць, аднак давялося яму да дачкі суседняга караля пасватацца. Хочаш ці не хочаш, і заручыцца з ёю давялося.

Надышоў дзень вяселля. Прыехалі кароль з сынам па нявесту, а світа следам цягнецца. Сумны быў поезд, хоць і вясельны. Наперадзе прынц едзе, Сямікрасуню ўспамінае, слязамі горкімі абліваецца. Позаду — Гаротнік, а на сэрцы ў яго быццам цяжкі камень ляжыць. Стараўся Гаротнік у хвасце вясельнай світы трымацца. Не хацелася яму, каб людзі журбу яго заўважылі. А як стала світа да нявесцінага замка пад'язджаць, заспяваў Гаротнік, ды так чыста, так звонка:

# Пошукі

Чалавек жыве і не ведае калі спатыкнецца, мала задумваецца над сваім лёсам. Адным словам, жыве з дня на дзень. Многія імкнуцца дабіцца матэрыяльнага дабрабыту, высокай пазіцыі ў грамадстве, выйсця ў людзі.

Некаторым хацелася б выляцець у свет, як тая птушка, але не хапае ім стойкасці, адвагі і веры ў свае сілы. Такім застаецца толькі вегетацыя.

У вёсцы жыў чалавек, нестары і немалады. Пакінуў ён адну жонку, ажаніўся з другою. Усё шукаў свайго месца ў жыцці. Называлі яго Аляксей.

Валодалі ім зменлівыя пачуцці. Раз біў жонку, іншы раз цалаваў і шкадаваў, не выпускаў ні да суседзяў, ні ў горад. Баяўся заставацца адзін. Нядоўга цешыўся другой жонкай, якая ўзяла ды памерла. І зноў у ягоныя дзверы загрукала самота. Жаль свой бедны мужчына тапіў у гарэлцы. Так палюбіў гэтую ваду, якая развязвае язык, што не мог з ёю расстацца. Прыйшлося яму доўгі час дружыць з „трэцяй жонкай", якая выціскала з яго вачэй горкія слёзы.

Чаго шкадаваў гэты чалавек? Можа, нешчаслівага кахання? Магчыма, што шкадаваў сваіх адносін да блізкіх яму істот, а можа плакаў над сваім лёсам, лёсам чалавека, якому не пашанцавала ў жыцці?..

Ужо ў дзяцінстве спасцігла яго няшчасце. Бацькі памерлі, калі хлопцу было ўсяго некалькі гадоў. На памінках людзі плакалі не па бацьках, але ад жалю над лёсам гэтага пакрыўджанага хлопчыка. Усё жыццё Аляксея — гэта пошукі свайго месца. І здавалася, што знайшоў ужо сваю дарогу. Звярнуўся да Бога. Пачаў кожную нядзельку наведваць царкоўку і шчыра маліцца ад усёй душы. І даваў нават грошы, каб бацюшка маліўся за яго.

Час плыве як вада ў рацэ, год за годам. Аляксей не шукае больш сабе сяброўкі жыцця. Ці падружыў з адзінотай? Здавалася б, зжыўся ён з самотай і чакае пазамагільнага існавання. Але гэта не так. Усё чагосьці шукае гэты мужчына. Не бяруць яго ў дом для састарэлых, бо замалады, жанчыны ім не цікавяцца, бо застары. І зноў пытанне: дзе ж месца гэтаму чалавеку? Пра што ён марыць? Пра жанчын? О, не! Яму хацелася б толькі паесці гарачага супу кожны дзень і каб было з кім словам перакінуцца. Гэта, здаецца, усе мары няшчаснага.

**Барбара Казімерук**

# Фотазагадка

З гэтага нумару пачынаем гульню звязаную з цікавымі месцамі і аб'ектамі Беласточчыны. За правільнае рашэнне нашай загадкі чытачоў чакаюць узнагароды. Адказы просім дасылаць на працягу трох тыдняў.



*Куды завандравалі ўдзельнікі этнаграфічнага рэйду (XI Сустрэчы „Зоркі")?*

Фота Ганны Кандрацюк

Пятро Васючэнка

# Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага

## Прадмова

Ходзіць па нашым краі пагалоска пра пана Заблоцкага, што жыў надта даўно, яшчэ за князем Дрыгайлам. Жылося тады людзям не абы-як, адно мыла не ставала — і вось пан Заблоцкі паквапіўся на лёгкі прынажытак. Адправіўся ён за мора, наладаваў мылам поўны карабель ды плыве назад пацíху. Ажно нахапіўся вецер, кінуў карабель на падводныя камяні, і той карабель даў цечу. Увесь тавар, лічы, змыла, а пан Заблоцкі застаўся ні з чым. З тае пары пачалі казаць: „Зарабіў, як пан Заблоцкі на мыле".

Але гэта даўнейшая гісторыя, хто пра яе не чуў! Ды мала хто ведае пра іншыя прыгоды пана Заблоцкага ды ягонага дружбака пана Кубліцкага. Ото ж былі паны! Колькі яны пазараблялі гузоў на свае галовы — усё праз фанабэрыю, прагавітасць, недарэчныя дзівацтвы! І шкада часам іх, ды смех разбірае: ну ж і шалапуты!

Кажаце, што маню, што няма такіх паноў ды не было, усё байкі?.. Э-э, браточкі вы мае, каб жа так!.. Вунь я надоечы бачыў: выйшаў з чорнае „Волгі" дзядзька з партфелем ды вось гэтакім пузам, ну рыхтык пан Кубліцкі. А пан Заблоцкі мне ўчора ў тралейбусе нагу аддзіснуў, яшчэ на мяне ж і лаяўся непрыгожымі словамі...

Але паслухайма пра прыгоды тых, даўнейшых паноў Кубліцкага ды Заблоцкага.

## Нішчымніца

Мо хто чуў, як паны Кубліцкі ды Заблоцкі з'елі свае боты?

Ды не, ніякага паморку, ніякага голаду не было тады ў нашай старане. Дый у паноў спачатку мелася ўсяго ўдосталь — і хлеба, і да хлеба. Але ж і жэрлі яны — што ў бяздонны мех таптаплі. Пан Кубліцкі на сняданак, бывала, аплятаў засмажанага вепрука. Пан Заблоцкі адным махам мог выпіць цэлую барылу мёду. Нядзіўна, што гаспадарка ў абодвух звялася на нішто. Гаёк, палеткі, паша, каровы, свінні, птаства — усё ляснула з-за вялікай панскай ахвоты да яды. Засталася на дваіх адна ўбогая хаціна, у падвале — вецер ды галодныя мышы. Ні курчаці, ні парасяці, хлеба ані каліва.

Пан Кубліцкі, надзьмуты, быццам вожыка праглынуў, ляжыць на лаве, глядзіць на партрэты сваіх продкаў ды вохкае. Пан Заблоцкі ў вялікай злосці ходзіць ад сцяны да сцяны, моцна грукаючы ботамі і раз-пораз хапаючыся за бок, дзе раней прычэплена была шабля (ужо няма шаблі, аддаў мужыкам за тры кольцы кілбасаў). Тады пан Кубліцкі, скрывіўшыся, будзе казаць:

— Хай бы пан падбіваў боты не залезнымі, а драўлянымі цвікамі — танней і менш грукату.

На гэта пан Заблоцкі даволі груба адказвае:

— Хай бы пан не брахаў абы-чаго, а пайшоў бы ў вёску ды папрасіў у мужыкоў хлеба!

Такі ён апечаны, пан Заблоцкі, толькі яго кранí — адразу пырхне. Але і пан Кубліцкі свой гонар мае.

— О не, — кажа, — я не магу прасіць у мужыкоў-лапатнікаў, хай лепей я свае боты з'ем.

Што ж, і намовіў на сваю галаву. Дажыліся — што адно боты і засталося кінуць у варыва. Балазе ў паноў боты дыхтоўныя, са свінячае скуры, шмальцам падмазаныя.

Раскладаюць агонь, набухторваюць вады ў чыгун, скідаюць боты — і туды ж, у чыгун. Вараць больш як паўдня, тады здымаюць чыгун з агню і сёрбаюць полíўку гэтак спраўна, што насы ўпрысядкі гуляюць. Пад'еўшы, кладуцца на лавы і спачываюць. Босыя, затое наетыя ад пуза.

І што, пытаецеся вы, разбалеліся панскія жываты? Ані. Адно ў пана Кубліцкага, як ён быў далікатнага складу, трохі бурчэла ўсярэдзіне. Дык ён злаваўся і доўга вымаўляў пану Заблоцкаму:

— Казаў жа, каб не падбіваў пан боты залезнымі цвікамі. Драўляныя — яны болей уежныя.

Вось як яно было. Было, было, дый выпала дно.

***(працяг будзе)***

*Сямікрасуняю шчасліваю была,*
*Але Гаротнікам няшчасным*
*стала я!*

Пачуў прынц песню і пытаецца ў бацькі:

— Хто гэта так хораша спявае?

— Гаротнік, верны мой слуга, — адказвае кароль.

Завёў Гаротнік песню другі раз:

*Сямікрасуняю шчасліваю была,*
*Але Гаротнікам няшчасным*
*стала я!*

Пачуў прынц песню Гаротніка і пытаецца ў бацькі зноў:

— Няўжо, шаноўны бацюхна, гэта і праўда Гаротнік, твой слуга, спявае?

— А хто ж яшчэ? — адказвае стары кароль. — Нікому болей так не заспяваць!

Як пад'ехаў поезд да самых варот замка, завёў Гаротнік песню трэці раз:

*Сямікрасуняю шчасліваю была,*
*Але Гаротнікам няшчасным*
*стала я!*

Павярнуў тут прынц каня, паскакаў да Гаротніка, зазірнуў юнаку ў твар і самлеў: „Сямікрасуня, ды і толькі!" Хаця і пазнаў ён сваю суджаную, але ні слоўца не вымавіў, толькі галавой ёй ласкава кіўнуў. Павярнуў каня і зноў наперад паскакаў.

Гасцей у нявесцíным замку сабралася — не пералічыць. Усе падданыя з двух каралеўстваў прыехалі. Пачалі госці спяваць, скакаць, казкі расказваць. Вось нявесцін бацька і кажа:

— Давайце адзін аднаму загадкі загадваць, а жаніх няхай пачынае.

Загадаў прынц загадку:

— Была ў мяне шкатулка каштоўная, і неяк страціў я да яе ключык. Загадаў майстру новы вырабіць. Вярнуўся дамоў, гляджу — ранейшы ключык на стале ляжыць. Вось і адгадайце загадку, ваша каралеўская вялікасць, які ключык мне даражэй — ранейшы ці новы?

— Ясная справа, ранейшы! — адказвае нявесцін бацька.

Не ведаў ён, што сам дачцэ прыгавор вынес.

А прынц яму і кажа:

— Калі так, забірай сваю дачку назад. Не магу я яе за жонку ўзяць, таму што ранейшае маё каханне знайшлося.

Падышоў прынц да Сямікрасуні, за руку яе ўзяў, да бацькі падвёў.

Стары кароль нічога зразумець не можа:

— Ды гэта ж Гаротнік, верны мой слуга!

— Шаноўны бацюхна, не Гаротнік гэта, а Сямікрасуня, нявеста мая!

Адкрыліся тут у прыдворных вочы, убачылі яны, якая цудоўная дзяўчына ў мужчынскім адзенні.

Адзін кароль нічога чуць не жадае, усё сваё сцвярджае:

— Якая там Сямікрасуня! Слугі ж яе разам з домам спалілі. Гаротнік гэта, верны мой слуга!

Разгневаўся прынц, зразумеў, што бацька яго каханую загубіць хацеў, што ён гэта яе бацьку з маці жыўцом спаліў. Узяў ён Сямікрасуню за руку і кажа каралю:

— Не магу даравадь табе тваю лютасць. Не патрэбна нам тваё багацце. Рукі-ногі ў нас ёсць, а на хлеб мы заўсёды заробім.

І пайшлі яны куды вочы глядзяць. Але баюць — шчасліва яны жылі, дружна, моцна адзін аднаго любілі, ніякой працы не цураліся. Сямікрасуня ж майстрыхай была, ды і прынц рамяству навучыўся. Так што ні голаду, ні холаду яны не ведалі.

# Цікавіць мяне абстракцыя


Віктар Кабац у сваім атэлье.

**Размова з гайнаўскім мастаком Віктарам КАБАЦАМ.**

*— Лета — час водпускаў і адпачынку. У некаторых жывапісцаў гэта плённы перыяд, а як у Вас?*

— Лета, гэта такі час, калі можна заглыбіцца ў пушчу, у яе каларытнасць. Маючы сутыкненне з лесам штодзень, я назіраю нарастанне колераў, якія ўжо восенню выбухаюць каскадамі. Прабываючы на прыродзе можна хутка і многа занатовак парабіць пастэлямі, а найцікавейшыя з іх пасля пераносіць у алейныя працы. Таму зараз і многа назіраю за жыццём лесу. Калі нешта цікавае заўважу, дык хуценька пераношу гэта на ліст.

*— Бачу, што працуеце таксама над алейнымі карцінамі (гутарым каля варштату спадара Віктара Кабаца, дзе на станках яшчэ не закончаныя працы). Ці ўзніклі яны таксама на падставе пастэльных эскізаў?*

— Так, спачатку зрабіў я ў лесе пастэлі, а цяпер у алеі хачу паказаць філасофію дрэў, але гэтае таксама не раблю канвенцыянальна. Рэдка карыстаюся пэндзлем, а разліваю фарбы, якія расплываюцца, а пасля кантралюю, каб у адпаведны момант затрымаць. Цікавіць мяне абстракцыя, а не дэталёвае выкананне. Вось „Стары дуб” (спадар Кабац паказвае на карціну), алейная праца, дзе я паказваю перад усім структуру кары, пень дрэва ў розных адценнях, ад зялёнага да сіняга. Там „Імправізацыя на тэму сасны”. Ствол сасны гэта адно, а галіны, гэта ўжо абстракцыя.

*— Ці апрача гэтых карцін працуеце яшчэ над нейкімі?*

— Да восені хачу падрыхтаваць цыкл „Беларуская бяроза”. Гэтае банальнае дрэва паказваць буду з беларускімі матывамі Беласточчыны. Напэўна паявіцца там матыў крыжа, хаты ці ўскраіны лесу, але з гэтым яшчэ трэба пачакаць. Што тычыцца выяўлення больш асабістых думак і перажыванняў, дык я два гады таму пачаў працаваць над карцінамі, на якіх паяўляецца постаць Хрыста, а назваў іх „Хрыстос на беларускай зямлі”. Можна там яшчэ ўбачыць і бел-чырвона-белы сцяг і тую ж бярозу. Мінула столькі гадоў, а ў Беларусі на многіх месцах мартыралогіі няма нават крыжа. Працы гэтыя прысвячаю беларусам, якія там ляжаць, не дачакаўшы незалежнасці сваёй краіны, часта расстраляныя. Так як у Курапатах нявінныя людзі ўзятыя ноччу і забітыя для статыстыкі. Зараз няма ж там ніякіх раскопак, а калі паяўляюцца свечкі, дык ад прыватных асоб. А колькі ж іншых мястэчак у Беларусі, якія маюць такія забытыя месцы. Гэта вельмі баліць і кранае, таму і выліваю свае думкі на палатно. Дзве працы на гэтую тэму ўжо закончыў, а цяпер працую яшчэ над трыма наступнымі. Раблю гэта зімою, калі больш часу і можна спакойна падумаць. Можа недзе праз пяць гадоў зраблю і выстаўку, але не раней.

*— Раней Вы гаварылі, што хочаце арганізаваць групу беларускіх мастакоў, якія маглі б рабіць выстаўкі ў Музейнай галерэі. Ці гэтая ідэя здзяйсняецца?*

— Я ўжо гаварыў з Алегам Кабзаром з Бельска-Падляшскага і некаторымі іншымі нашымі мастакамі ды сапраўды хочам арганізаваць групу беларускіх мастакоў, рабіць выстаўкі ў Музейнай галерэі, запрашаць мастакоў з Беларусі. Калі б маглі дзейнічаць пры Музеі, маглі б бясплатна весці і галерэю. Зараз таксама з групай польскіх мастакоў з „Саюза польскіх мастакоў-скульптараў” узялі мы ў арэнду на пяць гадоў леснічоўку „Невядомы бор”, што каля Гайнаўкі і будзем яе рамантаваць. А працаваць там будуць не толькі члены „Саюза”.

*— Дзякую за размову.*

**Гутарыў Аляксей Мароз**

# Не дачакаўся прызнання


Дом на вул. Шчыгляй. Ян Тарасевіч жыў на „горцы”. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

*(працяг; пачатак у 28 нумары)*

**Ганна Кандрацюк:** Набліжаецца вайна. Кузняцова рашае вярнуцца ў Маскву. Тарасевіч падаецца ў Латвію.

**Анатоль Чарапінскі:** У свет рушыў з адной сумкай. Проста, забраў самыя каштоўныя рэчы — свае кампазіцыі і сямейныя здымкі. Зразу наведаў сваякоў у Гародні. Пазней пабываў у Вільні. Пасля нейкага часу пераехаў у Латвію. Там жыла яго найстарэйшая сястра. Сястра мела вялікі маёнтак. У яе не было дзяцей, памёр таксама муж. Усю маёмасць хацела запісаць Тарасевічу. Але ён адмовіўся. *Навошта мне яшчэ адзін маёнтак* — сказаў. — *І са сваім не ведаю што рабіць.* У сястры гасцяваў коратка. Гаварыў, што яна мела невыносны характар. Жыў адзін. А зарабляў на сябе малюючы партрэты дзяцей. Ведаю, што ў Латвіі сустрэўся са сваім настаўнікам Пецярбургскай кансерваторыі, прафесарам Віталем, які быў рэктарам Рыжскай кансерваторыі. Тарасевіч не меў дакументаў. Прафесар Віталь выпісаў яму пасведчанне музычнай адукацыі. Згадваў, што ў міжчасе наведаў краіны Скандынавіі. Дзе, у каго там пабываў і дзеля якой мэты падарожнічаў — не ведаю. У самой Латвіі жыў коратка, бо пачалі ім цікавіцца з НКУС, бралі на допыты і калі там успыхла вайна, ён хутка вярнуўся ў Саколку.

*— Гісторыя паўтарылася. У Шындзелі зноў расцягнулі маёнтак. У Саколцы зноў сталі немцы.*

— Дом саветы вывезлі. Тарасевіч пачаткова жыў у Саколцы ў Лявіцкага, свайго колішняга аканома. Лявіцкі дастаў кватэру на вуліцы Беластоцкай. Пазней яны ўдваіх пабудавалі домік у Шындзелі і прафесар там жыў.

***— У 1941 годзе Вы сталі вучнем Яна Тарасевіча. Значыць і ў час вайны ён даваў урокі музыкі.***

— Толькі зрэдку. А творчасцю зусім не было як займацца. Хадзіў як нясвой, памятаю, прыбіты, не меў раялі. Пасля вайны сваякі з Гродна, Валянскія, перасяліліся ў Быдгашч і на кароткі час пакінулі яму класнае фартэпіяна Бэкера. Прафесар адрадзіўся, пачаў кампанаваць, даваў канцэрты. Неўзабаве аднак трэба было зноў шукаць жыццёвага прыстанішча. Народная ўлада забрала маёнтак ды і самога памешчыка прэч прагнала з дому. Спачатку спыніўся ён у Саколцы. Наняў сабе кватэру (не памятаю вуліцы), на гарышчы. Але і там не засядзеўся, бо пачалі яго наведваць працаўнікі бяспекі. Супрацоўніцтва прапанавалі. Дык прафесар, не аглядаючыся, у Беласток падаўся.

*— Дзе спыніўся ў Беластоку?*

— У той час са ссылкі вярнулася мая маці. Прафесар найперш жыў у нас, на вуліцы Шчыгляй, што на Баярах. У нас былі музычныя інструменты і ён мог займацца творчасцю. Пасля з г.зв. пасляняцкай маёмасці прыдзялілі раяль. Прафесар перасяліўся на асобную кватэру, дзе пачаў вучыць ігры дзяцей. Домік сціплы наняў, меў толькі пакойчык і сені. Сёння няма ўжо таго дому. Прафесар наймаў яго ў паштавіка, на вуліцы Вясёлай 45.

*— У Лёнзіка Альзаровіча, родам з Бабік.*

— Гаспадар пазней прадаў той домік і прафесар наняў кватэру на вуліцы Бэма ў пані Сохань. Домік, як і папярэдні, з пакойчыка і сені складаўся. Стаяў сярод дрэў у агародзе.

*— Сёння знаходзіцца там пашпартнае бюро.*

— Прафесар жыў там да смерці. Там памёр.

*— У Беластоку знайшоў працу ў музычнай школе Франкевічаў.*

— Пасля прыезду ў Беласток шукаў сабе працы. Нейкі час іграў у рэстаранным ансамблі. Пасля паехаў у Быдгашч да прафесара Ясінскага, зрабіў кваліфікацыі і стаў навучаць ігры на раялі ў музычнай школе Франкевічаў. Праца ў школе не заўсёды была лёгкай. Прафесар расказваў, што часта ўспыхалі там канфлікты. Ішло пра адносіны да моладзі. Калі з'яўлялася нейкая бяда, усе дзеці беглі да яго за дапамогай. Між іншым, прыліп да яго Максымюк.

***— Ежы Максымюк, сусветнай вядомасці дырыжор, піяніст, кампазітар. Сам пра сябе гаворыць, што быў вучнем школы Франкевічаў.***

— Так. Але, калі б не прафесар, Максымюк ніколі не зайшоў бы так далёка.

*(заканчэнне ў наступным нумары)*

## Вандроўка „Жывога слова”

У днях 14-18 жніўня гэтага года па Гайнаўшчыне вандроўкай пройдзе тэатр „Жывое слова” (кіраўнік Юрка Чарэнка). Вандроўку фінансава падтрымалі жыхары гайнаўскай гміны, Беларускае аб'яднанне студэнтаў у Польшчы і Фонд імя Стэфана Баторыя.

Тэатр наведае наступныя мясцовасці, у якіх адбудуцца спектаклі:

14.08 — Чыжыкі (спектакль увечары);
15.08 — Новае Беразова (спектакль увечары);
16.08 — Дубічы-Асочныя (спектакль пасля абеда) і Хітрая (спектакль увечары);
17.08 — Борык (спектакль увечары);
18.08 — Пасечнікі-Вялікія (спектакль пасля абеда) і Арэшкава (спектакль увечары).

# Беларускія фэсты



*Публіка назірала за мастацтвам беларускай песні стоячы.* Фота С. ГРЫНЯВІЦКАГА

## У Міхалове...

Нядзельная сонечная раніца 26 ліпеня не прадвяшчала дажджлівага надвор'я. На гэты дзень былі запланаваны беларускія фэсты ў Міхалове і Заблудаве, на правядзенне якіх дазволілі гарадскія і гмінныя ўлады.

У міхалоўскім парку пад кронамі дрэў стаяў прыемны халадок. Невялічкая бетонная сцэна была абстаўлена таблічкамі: „Беларускі народны фэст, Міхалова '98", „БГКТ Беласток" і „Гмінны асяродак культуры, спорту і адпачынку". Кіраўніцтва страхавой кампаніі „Поліса" з Беластока прывезла яшчэ і сваю таблічку. Не было толькі таблічкі гмінных улад. Іх прадстаўнікі на фэсце не паявіліся. Таму пасол у Сейм Рэчы Паспалітай, адначасова старшыня ГП БГКТ, Ян Сычэўскі вымушаны быў сам адкрыць фэст. Прывітаў ён шматлікую публіку, генеральнага консула РБ у Беластоку Мікалая Крэчку і віцэконсула Паўла Латушку, а таксама дырэктара „Полісы" Станіслава Лапіча.

Канцэрт, як заўсёды, павяла сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч. Першы выступіў эстрадны калектыў „Капры" з Беластока, далей хор „Рэчанька" з Козлікаў, душою якога з'яўляецца Люба Гаўрылюк, а музычным кіраўніком яе дачка Ала Дубец. Жанчыны выступілі ў новых прыгожых касцюмах, якія самі выканалі. Аднайменную песню „Рэчанька" харысткі выканалі ў спалучэнні з танцам з прыгожымі вышыванымі ручнікамі. Люба Гаўрылюк смяшыла прысутных анекдотамі з сялянскага жыцця.

Дасканала выступіў дзявочы хор „Каласкі" з Беластока пад мастацкім кіраўніцтвам Алы Дубец. Дзяўчаты выканалі некалькі беларускіх народных песень. Спяваў таксама з хорам сын Алы Дубец — Давід.

Дуэт — Люба Гаўрылюк і Валодзя Іванюк — прыгожа заспяваў беларускую народную песню „На полі лён цвіце".

„Расспяваны Гарадок" выступае ўжо 45 гадоў. Кіруе хорам Тамара Бурачэўская, дырэктар Гарадоцкага дома культуры. 31 год хор знаходзіцца пад музычным кіраўніцтвам нястомнага Сцяпана Копы. Маючы прыгожы голас праспяваў ён разам з хорам вясёлыя беларускія народныя песні „Бульба сення, бульба ўчора" і „Як цудоўна меці жонку".

Ала Дубец дасканала праспявала беларускую лірычную песню „У тваe вочы не наглядзецца".

На заканчэнне выступіў хор Гарадоцкага аддзела БГКТ у Беластоку пад музычным кіраўніцтвам Віктара Маланчыка з Гродна. Хор выканаў некалькі беларускіх народных песень. Мужчынская група хору праспявала „Каля саду Ванька ходзіць" і „За гарамі, за лясамі". Прысутныя пачулі таксама песню „Дзяўчынанька, шуміць гай" у выкананні дуэта — Любы Гаўрылюк і Валодзі Іванюка.

У сувязі са святам Ганны ўсе ўдзельнікі мастацкіх калектываў адспявалі прысутным на фэсце імянінніцам „Многае лета" і „Сто лят".

Валянціна Ласкевіч падзякавала мясцовым уладам за згоду на правядзенне ў Міхалове беларускага фэсту. Ад імя мясцовых улад падзякаваў калектывам за прыгожы канцэрт інструктар ГОК Рышард Воробей. Усе калектывы праспявалі на заканчэнне „Люблю наш край".

## ... і ў Заблудаве

Пасля фэсту ў Міхалове ўсе беларускія мастацкія калектывы пераехалі на фэст у Заблудаў.

Усіх удзельнікаў калектываў і гасцей запрасілі на абед, які чакаў у зале мясцовага прадшколля, што знаходзіцца побач гарадскога парку.

У абшырным парку, дзе так цудоўна пахла свежая скошаная трава, пры дасканалым надвор'і рыхтавалася прывезеная з ГП БГКТ узмацняльная апаратура. Народу сабралося даволі многа. На аграмаднай сцэне, што пад дахам, распачынаўся канцэрт.

Фэст адкрыў Яцэк Люлевіч, дырэктар Гмінна-гарадскога асяродка культуры ў Заблудаве. Прывітаў ён сардэчна консула РБ у Беластоку Мікалая Крэчку і віцэконсула Паўла Латушку, пасла ў Сейм Рэчы Паспалітай, адначасова старшыню ГП БГКТ, і дырэктара страхавой кампаніі „Поліса" ў Беластоку Станіслава Лапіча.

Ян Сычэўскі ў сваім выступленні сцвердзіў, што добра сталася, што мясцовыя ўлады ў Заблудаве згадзіліся на правядзенне тут беларускага народнага фэсту, хоць, на жаль, самі на фэст не прыйшлі.

Канцэрт павяла, як заўсёды, сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч. Усе мастацкія калектывы выступілі ў такой чарговасці як і ў Міхалове. Канцэрт прысутным надта спадабаўся. Адна толькі асоба хуліганіла выкрыкваючы непрыстойныя словы ў адрас выступаючых на сцэне. На шчасце хулігана хутка супакоілі.

Валянціна Ласкевіч сардэчна падзякавала праўленню горада і гміны ды дырэктару ГОК Яцку Люлевічу за дазвол на правядзенне фэсту. Падзякавала таксама ўсім выканаўцам канцэрту і шматлікай публіцы за такі цёплы, сардэчны прыём.

На жаль, так у Міхалове, як і ў Заблудаве не чытаюць ужо беларускай мастацкай літаратуры. Прысутны на фэстах Віктар Швед не падпісаў ніводнай сваёй кніжкі.

**В. Ш.**

# Пра Канстанціна Астрожскага размова

На пачатку нашага стагоддзя святое імя Канстанціна Астрожскага для кожнага адукаванага чалавека ў славянскім свеце было сімвалам стражытнай Беларусі — Вялікага княства Літоўскага.

Ужо пабачылі свет юбілейныя выданні „Беларускага календара за 1998 г.", дзе спецыяльны раздзел „Светачы старабеларускай культуры" прысвечаны Канстанціну Астрожскаму, да 2000-годдзя Хрысціянства вылучана брашура „Канстанцін (Васілій) Астрожскі — славуты асветнік і абаронца праваслаўя", лютаўскі нумар „Царкоўнага слова" за 1998 г. таксама прысвяціў гэтаму выдатнаму сыну беларускай зямлі ўсю 11 старонку газеты.

*— Як зараз рэлігійна-культурная грамадскасць адзначае 390-я ўгодкі з дня праведнага спачыну Канстанціна Астрожскага?* — звяртаюся да **Алены ЯСКЕВІЧ** з Мінска.

— 26 лютага 1998 г. была адпраўлена паніхіда і праведзены ўрачысты сход. З 9 па 12 мая адбыліся Епархіяльныя навукова-багаслоўскія чытанні „Канстанцін Астрожскі — славуты асветнік і паборнік Праваслаўя".

*— Які ж радавод старабеларускага князя, чым славуты св. Феадор Астрожскі, а таксама бацька князя — Канстанцін Іванавіч?*

— На думку гісторыкаў, Астрожскія паходзілі з турава-пінскай галіны Рурыкавічаў — Ізяславічаў. Пачынальнікам роду быў Святаполк Ізяславіч, праўнук св. роўнаапостальнага Уладзіміра, хрысціцеля Русі. Вядомы ў гісторыі ВКЛ князь Даніла з Астрога, які ўдзельнічаў у барацьбе супраць польскага караля Казіміра III у 1341 г., быў сынам пінскага князя Юрыя, які памёр у 1292 г. Займаючы галіцкі прастол, ён не толькі абараняў свае землі, але і дбаў, каб „ляхі не чынілі ўціску ў веры". Сын яго Феадор Данілавіч (? — 1407), князь уладзімірскі і цвярскі, у канцы жыцця стаў інакам Кіева-Пячэрскай лаўры, дзе і спачыў з імем Феадосій. Пазней Феадор стаў ушаноўвацца як святы; яго нятленныя мошчы пакояцца ў Дальніх пячэрах Кіева-Пячэрскага манастыра... Феадор Данілавіч быў прыхільнікам славянскага, беларуска-чэшскага пабрацімства, у 1422 г. удзельнічаў у паходзе князя Феадора Карыбутавіча для падтрымкі чэхаў у барацьбе з нямецкай каталіцкай экспансіяй.

Праўнук князя Феадора — князь **Канстанцін Іванавіч** (1460? — 1530) быў найвышэйшым гетманам ВКЛ, кашталянам віленскім, ваяводам троцкім. У прызначэнні на такія высокія пасады, згодна з тагачасным заканадаўствам, перавага аддавалася католікам. Але асабістыя таленты і аўтарытэт князя былі настолькі значныя, што для яго было зроблена выключэнне. Ён шырока праславіўся сваімі дзяржаўнымі справамі, вайсковымі перамогамі і адначасова быў шырокавядомы як рупліўца праваслаўнай веры, заснавальнік шматлікіх храмаў і манастыроў. Гісторыкі Царквы называюць эпоху патранату князя Канстанціна Іванавіча над беларускімі і ўкраінскімі землямі залатым векам Праваслаўя, бо іерархі і паства займалі тады надзвычай годнае становішча ў дзяржаве. За заслугі перад дзяржавай, як выдатны дыпламат, атрымаў ад караля і купіў шмат маёмасцей, быў другім землеўладальнікам у ВКЛ па колькасці падданых пасля віленскага ваяводы Гаштольда, але здзіўляў сучаснікаў сціплым і пабожным ладам жыцця.

*— Спачыў князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі ў Вільні, пахаваны ў Кіеве ва Успенскім саборы Кіева-Пячэрскай Лаўры, дзе да нашага часу захавалася надмагілле з яго выявай. Найбольш выразна духоўныя сілы, асаблівая місія роду Астрожскіх праявілася ў дзейнасці сына Канстанціна Іванавіча — князя Канстанціна (у хрышчэнні Васіля; 1526—1608). У 27-гадовым узросце ён атрымаў за асабістыя заслугі пасаду старасты ўладзімірскага, маршалка валынскага, а ў 32 гады стаў ваяводам кіеўскім... Як рыхтаваўся Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі да падзвіжніцкага служэння бацькоўскім веры, мове і культуры?*

— З узростам князь стаў свядомым і глыбока перакананым прыхільнікам праваслаўя, які разумеў непарыўную сувязь традыцыйнай усходняй хрысціянскай веры з этнічнай самабытнасцю ўсходніх славян. Нягледзячы на высокае грамадскае становішча і заможнасць, князь вёў строгі і пабожны лад жыцця. З надыходам Вялікага посту ён звычайна адыходзіў у манастыр, апранаўся ў бедную вопратку і праводзіў дні і ночы ў пасце і малітве, за багаслужэннем. Канстанцінопальскі патрыярх назваў яго захавальнікам і паборнікам ладу ў Царкве паўднёва-заходніх земляў ВКЛ. На Люблінскім сейме 1569 г. князь Астрожскі выступаў супраць аб'яднання ВКЛ і Польшчы ў адну дзяржаву. У 1596 г. у час, калі актыўна абмяркоўвалася і рыхтавалася царкоўная унія, князь выступіў у сейме з рашучай крытыкай антыправаслаўных дзеянняў караля Зыгмунта III. У выпадку парушэння каралём права свабоды сумлення князь пагражаў яму ўзброеным паўстаннем. У час абмеркавання ідэі уніі не быў супраць прымірэння і аб'яднання Заходняй і Усходняй цэркваў, разумеючы пад уніяй ідэальны саюз Хрысціянскіх цэркваў, заключаны на роўных правах з захаваннем праваслаўнага веравучэння, уладкавання і абраднасці. У якасці абавязковай умовы такога саюза ён лічыў блаславенне Канстанцінопальскага патрыярха. Калі даведаўся пра тайныя намеры іерархіі адступіць ад Царквы, князь пачаў рашучыя дзеянні. Калі справа дайшла да склікання Брэсцкага уніяцкага сабора, князь быў адным з ініцыятараў склікання праваслаўнага сабора ў Брэсце...

*— Каля 1576 г. князем была заснавана знакамітая Астрожская акадэмія.*

— Падручнікі для навучання таксама рыхтаваліся і друкаваліся ў Астрогу, дзе дзейнічаў гурток адукаваных людзей, якія займаліся перакладамі, рыхтавалі да выдання і друкавалі вучэбную, павучальную і багаслужэбную літаратуру. Да гуртка належалі вядомы друкар і духоўны пісьменнік Іван Фёдараў, Герасім Сматрыцкі, перакладчыкі і выдаўцы Васіль Суражскі і Цімафей Міхайлавіч, браты Дзям'ян і Ігнацій Налівайкі. Сюды часта наведваліся вучоныя грэкі — Дзіянісій Палеолаг, будучы канстанцінопальскі патрыярх Кірыл Лукарыс, патрыяршы экзарх Нікіфар, каб прыняць удзел, дапамагчы ў арганізацыі навучання. Вядомы пісьменнік-палеміст Захарыя Капысценскі пісаў, што ў Астрогу былі „мовцы одному Демосфену ровныи... и иные различные любомудрцы. Найдовалися и докторове славныи, в греческом, словенском и латинском языке выцвичоныи"...

*— Са сцен Астрожскай акадэміі выйшлі вядомыя царкоўныя і грамадска-культурныя дзеячы, пісьменнікі, перакладчыкі. Сярод іх — Клірык Астрожскі, Мялецій Сматрыцкі, Захарыя Капысценскі, Іоў Барэцкі, Сцяпан Зізаній, Андрэй Рымша... К. Астрожскі засноўваў таксама друкарні.*

— У 1578 г. — у Астрогу. У Дэрманскім манастыры і ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Справай жыцця князя Канстанціна было стварэнне ўмоў для выдання Астрожскай Біблii. Першае яе пробнае выданне пабачыла свет 12 ліпеня 1580 г., другое асноўнае выданне ад 12 жніўня 1581 г. змяшчала ўсе прадмовы да кнігі. У першай прадмове сам князь Канстанцін Канстанцінавіч праз пяро рэдактараў Г. Сматрыцкага і І. Фёдарава заклікае суайчыннікаў умацоўвацца ў веры.

**Гутарыла Міра ЛУКША**

**Успаміны з мінулай эпохі**

# Непаразуменне

Быў 1984 год. Аднойчы наша сакратарка паклікала мяне з урока да тэлефона, што мяне крыху здзівіла, бо ў нас быў тады заведзены такі парадак, што ў час урокаў і званіць, і прымаць тэлефоны нельга.

Званіла нейкая службовая асоба, якая, без лішніх слоў і пояснення, прадыктавала мне адрасок адной варшаўскай гасцініцы і казала з'явіцца там на наступны дзень пад вечар. А там ужо будуць ведаць, што далей са мной рабіць, паясніла службова. Я ад душы падзякаваў за клопаты і памяць аба мне і сціпла заявіў, што не паеду, бо і заўтра, і паслязаўтра ў мяне рабочыя дні. Тэлефоннай трубцы гэта не спадабалася, яна пачала цвёрда пераконваць мяне, што я павінен паехаць — гэта ж ваеннае ведамства пана просіць. Але пераканаць так і не змагла.

Сваю адмову я грунтаваў на тым, што я ўжо не хлопчык, пара і мне набіваць сабе цану і на кожны ківок рукі не ляцець закаціўшы штаніны за рознымі ведамствамі, няхай сабе яны і ваеннымі будуць.

На гэтым аднак не закончылася мая тэлефонная эпапея. Хутка адазваўся наш тэлефон з яшчэ большай сілай і напорыстасцю. Званіла на гэты раз з самой Варшавы нейкая важная ваенная персона: мо генерал, мо палкоўнік, а можа і сяржант. Яна ўжо не прасіла і не раконвала мяне, а патрабавала майго прыезду ў Варшаву. Калі ж у мяне цяжкасці з атрыманнем вольных дзён, заўважыла пры гэтым персона, то прашу зараз жа паклікаць да тэлефона дырэктара. І ніякіх пояснення больш.

Вось малайцы, — нарэшце здагадаўся я, — значыць такія таямнічыя яны таму, што так здорава ваенную тайну зберагаюць. І маюць рацыю. То ж ясней яснага, што калі наша армія займее такога жаўнера, як я (дзеля чаго ж больш так таямніча клічуць мяне ў Варшаву, як не для падшліфоўкі свайго баявога запасу, — далей лагічна разумаваў я), то не толькі яна, але і ўвесь Варшаўскі дагавор займее перавагу над НАТО. І начорта ж імперыялістам ведаць пра гэта? Каб яшчэ больш крычалі на ўвесь свет аб нашай перавазе сіл і нашай пагрозе?..

І так, усе мае хітрасці разрушыліся. Я атрымаў бясплатны білет першага класа ў Варшаву, загрузіў у дарожную торбу патрэбныя рэзервісту рэчы, бутэрброды, развітаўся з сям'ёй і рушыў у дарогу.

Ехаць у армію, нават на кароткі тэрмін, мне не хацелася. Ваеннай дысцыпліны я не любіў, а муштры і ўвогуле. Не хацелася выслугоўвацца таксама розным дзядам у пагонах. Бо ўжо і ўзрост не той, і жывот велікаваты. Хаця, праўду кажучы, штосьці не прыпамінаю такога часу ў сваёй біяграфіі, калі б я такімі схільнасцямі грашыў.

У Варшаву прыбыў я вечарам. Доўга чакаў у чарзе да таксі, але ўсё ж такі дачакаўся і да патрэбнай мне гасцініцы дабраўся. Там прынялі мяне міла, хутка далі нумар і сказалі быць гатовым заўтра а дзевятай гадзіне раніцы, бо прыедзе машына за намі. Аказалася, што я не адзін, набралася нас, педагогаў, чалавек сорак. Адзін з іх сказаў, што заўтра нас узнагароджваць будуць за заслугі перад нашай арміяй. І ён меў рацыю, значыць, і сярод педагогаў бываюць разумныя людзі. Навошта ж тады я, фраер, прывалок сюды дзве пары бялізны дый многа іншага?

Далей пайшло ўсё як у чароўнай казцы. Роўна а дзевятай наступнага дня перад нашай гасцініцай паявіўся ваенны аўтобус. Афіцэр, прывітаўшыся з намі, ветліва запрапанаваў усёй нашай педагагічнай браціі грузіцца. Аўтобус даставіў нас у клуб адной з самых слаўных і гераічных нашых вайсковых часцей. Там ужо чакаў нас сыты вайсковы сняданак. Пасля снедання завялі нас у прыгожую аўдыторыю, дзе чакалі нас адпаведна раскладзеныя кніжныя падарункі і пісьмовыя падзякі за нашы заслугі для нашай арміі. Тут адбылося таксама вельмі цікавая сустрэча з вайсковым начальствам, сярод якога былі два генералы. Яны інфармавалі пра складаную міжнародную палітычную і мілітарную сітуацыю і ролю нашай дзяржавы і арміі ў ёй. Нямала дасталася там капіталістычным дзяржавам і агрэсіўнаму ваеннаму блоку НАТО, які так і вышчэрваецца на нас.

Потым правялі нас у самае ганаровае месца часці — Izbę Pamięci Narodowej — і пазнаёмілі з яе экспанатамі. Тут адбылася і галоўная ўрачыстасць: уручэнне нам дзяржаўных узнагарод, дзеля чаго і сабралі нас у сталіцу. Узнагароды былі розныя: хто атрымаў грамату, хто грашовую ўзнагароду, хто медаль, а хто — ордэн. Мяне ўзнагародзілі медалём за заслугі для Варшаўскай ваеннай акругі. Мой медаль вельмі сімпатычны візуальна і вагой даволі цяжкі. Уручаў яго мне, дзякаваў і ціснуў маю заслужаную руку сам генерал, а я, максімальна ўцягнуўшы свой жывот, навёўшы сур'ёзны выгляд і выцягнуўшыся на смірна, бадзёрым, згодна ваеннаму ўставу, голасам адказаў: „Ku chwale Ojczyzny obywatelu generale!"

Пасля гэтага нас пазнаёмілі з узбраеннем і маёмасцю гасцюшай нас ваеннай часці. І апошнім пунктам праграмы быў абед з традыцыйным гарохавым супам і музыкай вайсковага аркестра для апетыту. Усё гэтае мерапрыемства, ад пачатку да канца, было вельмі цікавае і моцна патрыятычнае. Малайцы ваенныя, — думаў тады я.

Шкада толькі было потым, што не выпадала хваліцца знаёмым дзе быў, што чуў, бачыў, на чым быў вараны гарохавы суп і ўсё такое іншае. Я ж з таго часу стаў у нейкай ступені таксама чалавекам ваенным, ну, дапусцім, паўваенным, і павінен быў умець берагчы ваенную тайну, бо „нэ спало тады лыхо, ой, нэ спало".

Пасля таго, як стаў я медаляносцам, то і цешча, і жонка, і дзеці пачалі з большай павагай адносіцца да мяне і звяртацца на „вы": „Вынісце вядро са смеццем", — напрыклад...

Дасюль я мучуся над пытаннем, за што мяне так высока ацаніла наша армія, але адназначнага адказу так і не знаходжу. Вёў я, праўда, тады лекцыі афіцэрам, але сам бачыў, што яны вельмі неахвотна ўдзельнічалі ў іх і шукалі розных нагод сарвацца. Бывалі таксама і частыя ў нас выпіўкі. І яны былі ўжо больш людныя і актыўныя, чым мае лекцыі. На гэтых выпіўках, сціпла прызнаюся, я таксама быў някепскі і не ўступаў нават палкоўнікам і ваенным ветэранам. Але што больш прычынілася да маёй узнагароды, не ведаю.

Разглядаючы мерапрыемства, звязанае з маёй узнагародай, ужо з сённяшніх пазіцый, дык напэўна мая тадышняя высокая ацэнка яго не толькі памылковая, але і шкодная. Бо папраўдзе, і гэтае мерапрыемства, і гасцюшая нас ваенная часць, і ўся тадышняя наша армія былі трэфныя. Яны ж былі яшчэ членам Варшаўскага дагавору і прасавецкія! Значыць, не прызнавалі ніякіх хрысціянскіх вартасцяў і не толькі, што не рваліся ў НАТО, але — аж страх падумаць — былі ярымі ворагамі яго! Дый што гэта за ўрачыстасць, у якой выступае куча афіцэраў, два генералы і ніводнага капелана ў цэнтры? Такая мусіла быць і баяздольнасць яе...

Цяпер ужо і сам не ведаю, што рабіць з маім медалём: ці здаць яго на металалом, ці выкінуць пацiхеньку?

**Васіль Сакоўскі**

**Апанас Цыхун**

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

**(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)**
**Частка IX**

Закончыць семінарыі, відаць, па ўказаным і іншых прычынах мне не давялося. З чацвёртага курса мяне прызвалі ў польскую армію. Адтэрміноўкі не далі. Абавязковую ваенную службу праходзіў я ў Вільні ў „памяровай" артылерыі, затым, як рэзервіст — у Сувалках, у другім дывізіёне 29-га палка лёгкай артылерыі, па-польску скарочана „PAL", „ПАЛЬ". Як у час абавязковай вайсковай службы, так і ў час рэзервы, мяне спецыялізавалі — наводчыкам, па-польску — цэляўнічым. Быў я ў чыне малодшага сяржанта.

У перыяд вайсковай службы ў Вільні, у „памяровай" артылерыі, у трэцяй батарэі служылі хлопцы розных нацыянальнасцей: палякі, літоўцы, беларусы, яўрэі і адзін цыган, па прозвішчы памятаю — Вільчэўскі. Відаць ён быў метыс, патомак людзей розных рас. Матка, здаецца, была беларуска. Вось ў працэсе праходжання вайсковай службы лёс і звязаў мяне з гэтым чалавекам. Мы сталі блізкімі, шчырымі сябрамі. Ён прывіў мне любоў да свае цыганскай мовы.

Відаць, што Вільчэўскі ў войску адчуваў адзіноту, самоту у воддалі ад сваіх людзей. Яму не было з кім пагаварыць на сваёй мове і ён выбраў за аб'ект мяне. Стаў да мяне звяртацца на сваёй мове, тлумачыць мне значэнне асобных слоў, як яны вымаўляюцца, гаварыць па-цыганску цэлымі фразамі. Напрыклад: „Дэ міро сахачкірасо" — дай мне закурыць. „Кай ду трэдассо?" — куды ты паедзеш? „Кай ду тарджо?" — дзе ты стаіш? „Комэс сахачкірассо?" — хочаш закурыць? „Ду ісы Рамо" — ты з'яўляешся цыганам. „Шукаро ракло" — прыгожая дзяўчынка і іншыя.


*Вёска Кунцаўшчына.*

Пасля арміі далей вучыцца ў семінарыі я не меў магчымасці. Бацька з мачахай купілі ў Гродне дом і пераехалі туды жыць. А мяне ўгаварылі, каб я ажаніўся і застаўся на гаспадарцы. У 1934 годзе я ажаніўся з дзяўчынай з вёскі Свіслач-Дольная, Гродзенскага раёна — Марыяй Аляксееўнай Зянкевіч. Мне было тады 24, а ёй 23 гады. Такім чынам я, пашкадаваўшы бацькоў, застаўся на гаспадарцы, стаў гаспадаром. Усе справы па гаспадарцы леглі на мае плечы. Прытым сяляне-аднавяскоўцы мяне на гэтай пасадзе сустрэлі варожа. Асобныя насміхаліся, казалі: „Гімназіст задумаў стаць гаспадаром". „Нічога з гэтага не будзе". Крыўдна было, але мусіў з лёсам пагадзіцца, цярпець. Новую хату бацька прадаў, я змушаны быў жыць з жонкай у хаце з сыроўкі, перарobленай з хлява, халоднай. Гаспадарка была ў даўгах, падаткі незаплачаныя. Часта прыязджаў секвестратар. За няўплату падаткаў забіраў жывёлу і сельскагаспадарчыя прылады. У гаспадарцы не хапала сельскагаспадарчага інвентару. Быў адзін конь чорнай масці, сляпы на адно вока, называўся „Мумей", нейкай мангольскай пароды. Карова „Жучка", авечкі і свіні. У памяці назаўсёды застаўся „Мумей", з якім я перажыў розныя нягоды, нястачы, ліхія гадзіны. Здаецца, ён мяне разумеў, улічваў мае думкі, як чалавек. Выконваў самыя цяжкія работы. Ніколі не падводзіў. У вечары, калі ён пасвіўся на выгане, дастаткова было паклікаць, як ён адразу на мой голас азываўся.

Спачатку вельмі цяжка было гаспадарыць, але паступова стала лягчэй, прызвычаіўся, уваійшоў, як кажуць, у курс справы. Маральна падтрымлівала мяне жонка Марыя Аляксееўна. Паступова зжыўся і з сялянамі, знайшоў з імі агульную мову. Праз некаторы час яны сталі мяне паважаць. Адным словам, акунуўся я з галавой у сялянскае жыццё, палюбіў простых, шчырых працоўны народ, яго мову, звычаі, прыказкі, прымаўкі, песні. Асабліва цесная сувязь у мяне была з дзяўчатамі і хлопцамі. Кожны вечар, пасля працы, яны прыходзілі да мяне і прасілі, каб я ім паіграў на скрыпцы. Любілі танцы. І я ім амаль кожны вечар пад Пушковай хатай іграў на скрыпцы: полькі, кракавяк, абэрак, лявоніху, падыспан, нарэчаньку, галёпа. Моладзь была за гэта вельмі ўдзячная, а я ад жонкі змушаны быў слухаць словы незадавалення.

*(працяг будзе)*

# Кніжная вітрына

**Рэдакцыя „Нівы" заяўляе, што вядзем продаж кніжак па пошце (za zaliczeniem pocztowym). У нас можна заказаць ніжэйпералічаныя выданні (у дужках падаецца кошт кніжкі з перасылкай — у злотых):**

Л. Аляксееў, *Гродна і помнікі Панямоння* (16,40)
Н. Артымовіч, *Сезон у белых пейзажах* (6,40)
а. К. Бандарук, *Пазнай сваё* (13,40)
а. К. Бандарук, *Праўда вас вызваліць* (13,40)
*Беларуская мова. Дапаможнік для абітурыентаў* (15,40)
*Беларуская энцыклапедыя — у 18 тамах*, тамы 1, 2, 3 (па 30,30)
*Беларускі рок'н'рол — тэксты* (8,40)
*Беларускі тэатр у прасторы сусветнай культуры. Матэрыялы міжнароднай канферэнцыі* (15,40)
*Беларускія народныя песні і танцы* (15,40)
М. Бірыла, *Слоўнік націску ў беларускай мове* (8,40)
Г. Валкавыцкі, *Белая вязь* (10,40)
Г. Валкавыцкі, *Віры* (8,40)
Ю. Весялкоўскі, *Няясна мроіліся новыя дарогі* (15,40)
Ю. Весялкоўскі, *Беларусь у Першай Сусьветнай вайне* (17,40)
М. Гайдук, *Легенды Беласточчыны* (7,90)
М. Гайдук, *Паратунак* (8, 40)
М. Гайдук, *Песні Беласточчыны* (15,40)
У. Гайдук, *Пах аернага хлеба* (7,40)
Ю. Геніюш, *З маёй званіцы* (8,40)
А. Глёбус, *Койданава* (11,40)
*Гродна — альбом* (25,80)
Дж. Джойс, *Уліс 1. Пераклад Я. Максімюка* (11,40)
Дзядзька Квас, *Роздумы на калёсах* (9,40)
*З глыбі вякоў. Наш край. 1 — гістарычна-культуралагічны зборнік* (15,40)
М. Лукша, *Выспа* (8,40)
М. Лукша, *Дзікі птах верабей* (8,40)
М. Лукша, *Замова* (8,40)
С. Макацёр, *Макатразмы* (7,40)
Я. Максімюк, *Беларуская гімназія ў Заходняй Нямеччыне* (10, 40)
*Наш радавод, кн. 5, Царква і культура народаў ВКЛ...* (35,30)
*Наш радавод, кн. 7, Гістарычная памяць народаў ВКЛ...* (41,30)
В. Петручук, *Пожня* (10,40)
*Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай. Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя* (15,40)
Б. Рудковский, *Топография дорог и памятников* (17,40)
Г. Сагановіч, *Невядомая вайна* (13,40)
К. Сідаровіч, Ю. Пракаповіч, Я. Жамойцін, В. Ярмалковіч, *Лёс аднаго пакалення (успаміны)* (13,40)
Г. Тварановіч, *Беларуская літаратура. Паўднёваславянскі кантэкст* (11,40)
*Філаматы і філарэты. Зборнік. Пераклад польскамоўных твораў К. Цвіркі* (15,00)
„Фрагмэнты" № 1, 3-4 (па 11,40)
М. Хмялеўскі, *І так бывала* (10,40)
*Церкви и приходы Минска* (11,40)
Я. Целушэцкі, *Панарама гмін усходняй Беласточчыны* (9,40)
Я. Чыквін, *Далёкія і блізкія* (16,40)
Я. Чыквін, *Кругавая чара* (7,40)
В. Шаблюк, *Сельскія паселішчы Верхняга Панямоння XIV-XVIII ст.ст.* (13,40)
В. Швед, *Падзеі і постаці гродзенскай даўніны* (9,40)
*Энцыклапедыя гісторыі Беларусі — у 6 тамах*, тамы 3, 4 (па 36,30)
Ж. Эрш, *Філасофскае здумленне. Гісторыя заходняй філасофіі* (10,40)
с. М. Юрчук, *Святая Зямля, Цуд Агню і Слава Воблакаў* (11,40)
Я. Юхо, *Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі* (10,40)
С. Яновіч, *Доўгая сьмерць Крынак* (8,40)
С. Яновіч, *Дзённікі* (11,40)
С. Яновіч, *Самасей* (8,90)
А. Яскевіч, *Творы Ф. Скарыны* (7,40)
А. Яскевіч, *Старабеларускія граматыкі* (13,90)
B. Białokozowicz, *Mikołaj Janczuk 1859-1921* (19,40)
*Białorusini i stosunki polsko-białoruskie na Białostocczyźnie 1944-1956. Wybór dokumentów. Opracował S. Iwaniuk* (13,40)
„Białoruskie Zeszyty Historyczne" nr-y 4, 5, 6, 7, 8, 9 (pa 13,40)
*Białoruski ruch studencki w Polsce 1981-1992. Wybór dokumentów* (16,40)
G. Charytoniuk, *Literatura białoruska w Polsce. Bibliografia przekładów za lata 1945-1994* (16,40)
A. Hlobus, *Demonokameron* (15,40)
S. Janowicz, *Dolina pełna losu*, (8,40)
S. Janowicz, *Listowie* (8,40)
H. Głogowska, *Białoruś 1914-1929. Kultura pod presją polityki* (15,40)
*Księga cudów przed ikoną Matki Bożej w Starym Korninie dokonanych. Do druku przygotował A. Mironowicz* (39,30)
A. Mironowicz, *Teodozy Wasilewicz — archimandryta słucki, biskup białoruski* (10,40)
O. Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe 1917-1923* (20,00)
o. G. Sosna, D. Fionik, *Orla na Podlasiu. Dzieje cerkwi, miasta i okolic* (15,40)
o. G. Sosna, D. Fionik, *Cerkiew i monaster św. Mikołaja w Bielsku Podlaskim* (10,40)
o. G. Sosna, *Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie* (8,40)
o. G. Sosna, *Kościół prawosławny na Białostocczyźnie w ocenie władz II Rzeczypospolitej* (7,40)
o. G. Sosna, *Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie. Część demograficzna — chrzty, śluby, zgony* (7,60)
o. G. Sosna, *Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie. Część alfabetyczna. Suplement II* (7,60)
o. G. Sosna, *Wstępna bibliografia chrześcijaństwa wschodniego* (10,40)
o. G. Sosna, *Wstępna bibliografia chrześcijaństwa wschodniego. Druki polskojęzyczne okresu współczesnego. Suplement I* (9,40)
o. G. Sosna, *Wstępna bibliografia chrześcijaństwa wschodniego. Druki polskojęzyczne okresu współczesnego. Suplement II* (9,40)
W. Szwed, *Wiersze wybrane* (11,40)
*Za niebokresem Europy. Antologia nowej poezji białoruskiej* (13,40)

**Кнігі гэтыя можна купіць непасрэдна ў нашай рэдакцыі і тады будуць яны каштаваць намнога танней.**

# Конкурс „Нівы"

Рэдакцыя „Нівы" аб'явіла конкурс ведаў пра Беларусь. Пачынаючы з 23 нумара ад 7 чэрвеня, у дзесяці чарговых нумарах нашага штотыднёвіка змяшчаем пытанні па геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі. Побач друкуем тры адказы, сярод якіх правільны толькі адзін. Правільны адказ трэба пазначыць крыжыкам.

Чытачы, якія да 23 жніўня 1998 г. дашлюць у рэдакцыю дзесяць талонаў з правільнымі адказамі, возьмуць удзел у жараб'ёўцы ўзнагарод: першая — 500 зл., другая — 300 зл., дзве трэція — па 100 зл., дзве падпіскі „Ніва" на 1999 год, два энцыклапедычныя даведнікі па культуры Беларусі. Спісак узнагароджаных будзе апублікаваны ў „Ніве" ад 30 жніўня.

Талоны просім дасылаць усе разам у адным канверце з паметкай: *Конкурс „Ніва"*.

**ТАЛОН № 10**

## Конкурс тыднёвіка Ніва

Самае вялікае возера Беларусі — гэта

- ☐ Нарач
- ☐ Мядзель
- ☐ Заслаўскае

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што я кудысьці еду цягніком, але выскакваю з яго на хаду. Збягаю па пуцях, па насыпах, але хтосьці крычыць да мяне. Я вяртаюся крыху, аглядаюся, а то нейкая псіхічна хворая жанчына крычыць на мяне і лае брыдкімі словамі. Я пабегла далей у той бок, адкуль ехаў цягнік (здаецца, міжнародны нейкі, ці не было гэта недзе каля Гродна).

**Марта**

Марта! Твой сон гаворыць аб нейкай небяспечнай справе, у якой ты возьмеш удзел. Усе элементы гэтага сну як бы папераджалі цябе перад пагрозай. Перш ты ехала цягніком, што ўжо гаварыла б аб нечым кепскім, а пасля яшчэ выскачыла з яго на хаду. Гэта ўжо вялікая небяспека! А тут яшчэ, адкуль ні вазьмі, з'явілася псіхічна хворая жанчына, якая на дадатак лаяла цябе брыдкімі словамі. Усё гаворыць за тое, што твае справы прымуць кепскі абарот.

Мне, Астроне, прыснілася, што адбываюцца памінкі па маёй маці. Усё дзеецца ў незнаёмай хаце.

Няма ніякай гасціны, але ідзе сюды шмат людзей.

Бачу свайго бацьку. Быццам бы ёсць тут і мачыха. Я пачала размаўляць з бацькам. Заўважаю, што ідуць усе сваякі мачыхі. Гэта пачынае мяне раздражняць. Мяне злуе, што мачыха не запрасіла нашых сваякоў.

Але вось я бачу, што ідзе па ўсходах са двара бацькава сястра з нейкім чалавекам. Хачу дадаць, што ні бацька, ні мачыха ўжо не жывуць. Жыве толькі бацькава сястра. Што будзе, Астроне?

**Яня**

Яня! Твой сон таксама кепскі. Ішло на памінкі па тваёй маці шмат людзей, і гэта ўжо абазначала б страту самастойнасці. Нехта накіне табе сваю волю, а ты з гэтым не зможаш пагадзіцца.

Бацька ў сне прадвяшчае клапатлівы ход падзей, а тут жа была яшчэ мачыха, якая ў сне абазначае нейкі падман, фальш. Ты бунтавалася, што няма вашых сваякоў, а ўсе — з мачышынага боку. Значыць, і людзі тыя, якія зробяць табе крыўду, будуць няшчырыя.

Тое, што сюды ішла адзіная асоба з тваёй сям'і — цётка, можа абазначаць, што і яна памрэ (блізкасць з нябожчыцай).

**Астрон**

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com
INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).
Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.
**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Мірослава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**
1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1998 r. upływa 5 września 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка




*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

Фрашкі пра нашых

## *Хто наступны?*

Вандал не рэваншыст і зусім не халера.
Вандалу ў „Ніве" плацяць пяць злоты;
Аддаўшы *для паньства*, хопіць яму на паперу.
Ды колькі ж раскошы смяяцца з дурноты!

Вандалу — прыемнасць, газеце — вось клопат,
Калі пяць зразу „зганьбленых" страшыць наганам!
Галоўны пад стол уцякае галопам,
А сакратар балбоча штось цьмяна,

Глядзіць *незнаёмцам* у злосныя вочы
І думае: „Скуль я вас знаю, панове?"
Вандал піша ціха і далей прарочыць,
Хто ўрэшце з іх у „Ніве" азвецца „на мове".

**Вандал Арлянскі**

## *Як Міру бралі ў армію*

Міра Лукша, здаецца, мела нарадзіцца хлопчыкам. Чаму? Усё жыццё здараюцца ў яе праблемы з полам. Не-не, выглядае яна ўвогуле як жанчына, нават вельмі, і ніхто яе не памыліць з прадстаўніком „брыдкага" ды „моцнага" роду чалавечага. Але, вось што і раз мусіць Міра даказваць на пошце ці ва ўстановах, што яна не Міраслаў, як камусьці ўздумалася яе прадставіць у паперах.

Найбольш страшнай гісторыяй была тая, якая магла б закончыцца нават трагічна ў выпадку ваенных дзеянняў. Прызвалі Міраславу Лукшу ў армію! Час прыйшоў. У паперах усё як трэба: дакладныя дата і месца нараджэння, прозвішча, адрас, ды пол не той! Парагаталі Мірыны сябрыстудэнты: прыйдзецца Міраславе як Міраславу служыць айчыне! Найбольш спалохалася матуля, тыповая беларуска: прыслалі ж, трэба ехаць, тлумачыцца, даказваць, што ейная Мірачка прызыўнікам быць не можа! А Міра смяецца: няхай пішуць яшчэ, прысылаюць, няхай нават прыязджаюць мундуровыя, няхай спрабуюць у тую армію *wcielić*! Цікава: колькі разоў будуць высылаць пісульку? Інцярэсна, як працуе і армейская бюракратыя. „За трэцім разам паеду, прыйдзецца даказваць, здаецца, што я не мужчына!" — жартавала прызыўніца ў інтэрнаце.

Міра чакала цярпліва, як пойдуць падзеі, але матуля не стрывала. Пасля паўторнага прызыву паехала ў камісію высвятляць справу.

— Я ў справе маёй дачкі... — пачала збянтэжаная Мірына мама.

— А што ж гэта нашы хлопцы нарабілі? — пацікавіўся маёр.

**(лук)**

## *Грыбок*

*(дрындушка)*

У суботу Янка
Ехаў над ракой.
На мосце Алёна
Махнула рукой.

Спыні Янка „Ладу",
Дзверы адчыніў,
Сардэчна Алёну
Сесці запрасіў:

— Мілая Алёна,
Ты куды, куды?
— Даражэнькі Янка,
Я ў лес на грыбы.

У зялёным лесе
Ягады растуць,
А Янка з Алёнай
Грыбы шукаюць.

Зірнула Алёна
Дзе сук-каранёк,
Бачыць — перад Янкам
Падняўся грыбок.

Стала ціха-ціха
Па усёй зямлі,
Пад кустамі ў лесе
Грыбочкі раслі.

**Запісаў Адам Маньяк**

## *Крыжаванка*



**Гарызантальна:** 2. орган абароны і нападу ў шэршня, 4. бязддзейнасць, 6. устаноўленая норма аплаты, 7. абагатвораны прадмет у першабытным грамадстве, 9. выдаляецца пры спаражненні, 11. польская сталіца, 12. адухаўленне сіл і з'яў прыроды, 13. растоплены тлушч, 15. аргенцінскі танец, 17. валік у кроснах з асноваю, 18. Францішак, арганізатар беларускага тэатральнага і грамадскага жыцця (1883—1944), 19. адхіленне ад удзелу.

**Вертыкальна:** 1. ранішняя зорка, 2. лірычная песня малдаван, 3. ансамбль з васьмі выканаўцаў, 4. пазбавіў Беларусь нацыянальных сімвалаў, 5. Надзея, беларуская паэтэса („Сезон у белых пейзажах"), 6. шырокая праезджая дарога, 8. выстаўляе для агляду помнікі матэрыяльнай культуры, 9. прыводзіць у выкананне смяротны прыгавор, 10. надае бляск прадметам, 14. Галіна, савецкая балерына (нар. у 1910 г.), 16. паразіт на дрэвах з белымі ягадамі, 17. вялікая рыбалоўная сетка. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 26 нумара**

**Гарызантальна:** наём, цыбук, абібок, буян, сінус, аполак, муджахед, халіф, Нагасакі, барбарыс, езуіт, патэльня, Тырана, амбон, паша, разява, ляпіс, злак.

**Вертыкальна:** рызіна, Сухумі, асуджаны, манах, сінод, водар, суфраган, перамена, хіба, лорд, табу, ліст, аселішча, зямляк, іронія, рыцар, паляк, тапаз.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## *„Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка*

— Чаму ты, заміж прапіваць грошы, не пакладзеш іх у банк?

— Навошта? У банку атрымаю сама больш трыццаць працэнтаў, а ў рэстаране сорак пяць.

* * *

Хлопчык пытае свайго суседа-халасцяка, ці не нудзіцца яму самому.

— А чаго ж мне нудзіцца, — адказвае дарослы, — цэлымі днямі сяджу і думаю.

— А ў нядзельку або свята?

— Тады раблю адпачынак і сяджу без думак.

* * *

— Наш урач за мінуту вылечыў адну цяжка хворую жанчыну.

— Якім чынам?

— Сказаў ёй, што ўсе яе хваробы з'яўляюцца прызнакамі старасці.

* * *

Гутараць пажылыя мужчыны:

— А помніце, сябры, тое нямое кіно?

— Гэта быў цудоўны час. На экране баба намагаецца крычаць, а таго крыку не чуваць...

* * *

Гандлярка з клункамі сядае на закупораны аўтобус распіхаючыся. Пажылы пасажыр звяртае ёй увагу на яе бескультурныя паводзіны. Яна груба адказвае:

— А пацалуй мяне ў с...

— Выбачайце, мадам, — адказвае пасажыр. — Навокал рэцэсія, беспрацоўе, інфляцыя, крызіс, а вам захацелася такіх вытанчаных пяшчотаў.

* * *

— Калі вы ўсміхаецеся, — звяртаецца ў застоллі жанчына да мужчыны, — маю ахвоту запрасіць вас да мяне.

— Гэта камплімент?

— Не-не! Я, папросту, з'яўляюся дантысткай.

* * *

Элегантная жанчына затрымоўваецца каля жабрака:

— Дзедка, вы ў мінулым тыдні былі сляпым, а сёння ў вас картачка, што вы глухі...

— Бо, бачыце, сляпому кладуць фальшывыя грошы.

* * *

Пажылога дзедку спыталі, што дастаўляе яму больш радасці: секс ці Вялікдзень.

— Вядома, — адказаў дзедка, — што секс, але Вялікдзень бывае часцей.